НАША СВАБОДА

№84 ВЫДАЕЦЦА З 25 ЛЮТАГА 2000 ГОДА

19 СНЕЖНЯ 2000 года АЎТОРАК

Адрас: 220123, г.Мінск, а/я 103

E-mail: NPSvaboda@irex.minsk.by http://www.svaboda.com

КОШТ СВАБОДНЫ




Рэдакцыя НАШАЙ СВАБОДЫ прыносіць свае прабачэнні чытачам за недакладныя звесткі пра тэрмін выпуску трох нумароў на тыдзень. На жаль, тэхналагічныя ўмовы і збег святаў вымушаюць нас пачаць трохразовы выпуск газеты толькі са студзеня 2001 года. У якасці кампенсацыі мы будзем выпускаць пятнічныя нумары газеты ў гэтым годзе на шаснаццаці старонках замест ранейшых васьмі.



стар.4
**Кучма вінаваты ў зніжненні журналіста?**

стр.5
**Зинаида Гончар: «Завтра «мочить» будут тех, кто сегодня молчит...»**

Жена известного оппозиционного политика Виктора Гончара рассказывает, как она живет с того дня, когда был похищен ее муж.



STINGER

Шаноўныя чытачы!
У пятніцу чытайце ў НАШАЙ СВАБОДЗЕ сатырычна-гумарыстычную падборку матэрыялаў пад рубрыкай «STINGER». Гэта новы праект рэдакцыі, які мы мяркуем паступова пераўтвараць у штотыднёвы часопіс. Спадзяемся, што гэта ў нас атрымаецца найлепшым чынам, бо сатырычных матэрыялаў у нашым сённяшнім жыцці – хоць адбаўляй. Часам не трэба нават і выдумляць нешта арыгінальнае: знай, запісвай за нашымі начальнікамі тое, што яны гавораць на публіку. Спадзяемся таксама на вашыя допісы і творчую ініцыятыву.

# Рэгіёны падтрымаюць Сямёна Домаша як адзінага кандыдата

Аляксей ШЫДЛОЎСКІ

Каардынацыйны савет «Рэгіянальная Беларусь», у які ўваходзяць грамадскія, прафсаюзныя і палітычныя арганізацыі ўсіх абласцей Беларусі, заявіў у суботу, 16 снежня, што Сямён Домаш адпавядае ўсім крытэрыям адбору адзінага кандыдата ад аб'яднаных беларускіх дэмакратаў. Зыходзячы з гэтага, «Рэгіянальная Беларусь» заявіла аб падтрымцы кандыдатуры Домаша і прапанавала ўсёй грамадскасці падтрымаць іхняе рашэнне.

Такім чынам, Сямён Домаш стаў першым названым адзіным кандыдатам ад дэмакратычнай апазіцыі. Усе астатнія (паранейшаму верагодна, што гэта будуць Міхаіл Чыгір і кандыдат ад прафсаюзаў, магчыма, Ганчарык) ужо будуць другімі ці трэцімі, тым больш, што ім прыйдзецца шукаць падтрымкі і ўзгадняць свае кандыдатуры з дэмакратычнымі арганізацыямі,



большасць якіх свой выбар ужо зрабілі на карысць Домаша.

З нагоды гэтага вылучэння НАША СВАБОДА папрасіла аднаго з рэгіянальных лідэраў «Рэгіянальнай Беларусі», намесніка старшыні БНФ «Адраджэнне» А.Фёдарава пракаментаваць падзею.

Анатоль Фёдараў, Магілёў:

– Я думаю, што іншыя кандыдаты, якія лічыліся найбольш верагоднымі, цяпер мусяць зразумець, што сёння рэальная большасць за Сямёна Домаша. Апроч таго ёсць іншыя чыннікі таго, чаму менавіта такое рашэнне было прынятае. Сямён Домаш вельмі перспектыўны палітык, бо не мае ніякага адмоўнага мінулага, нейкіх хібаў, з-за якіх пры «дапамозе» ўладаў у аб'яднаных дэмакратаў маглі б быць праблемы ў самы непадыходзячы для гэтага момант. Я маю на ўвазе варыянт, які б быў найбольш магчымы пры вылучэнні, прыкладам, Міхаіла Чыгіра. Трэба быць упэўненымі, што ўсё будзе добра. Гэтым вылучэннем мы далі мінскай палітычнай эліце зразумець, што мы, рэгіёны, будзем падтрымліваць толькі Сямёна Домаша і, зыходзячы з гэтага, ім трэба прымаць свае рашэнні. ■

*Матэрыял на гэтую тэму чытайце на стар.2*

# Камандавацъ парадам пачаў Буш

Расціслаў ПЕРМЯКОЎ

**У суботу сталі вядомыя першыя прызначэнні, зробленыя абраным прэзідэнтам ЗША Джорджам Бушам-малодшым.**

Дзяржаўным сакратаром Злучаных Штатаў, які адказвае за вядзенне замежных справаў, упершыню стаў афраамерыканец – чарнаскуры генерал у адстаўцы Колін Паўэл.

65-ты дзяржсакратар ЗША генерал Колін Паўэл карыстаецца аднолькава вялікай павагай і сярод рэспубліканцаў, і сярод дэмакратаў. Ён нарадзіўся 5 красавіка 1937 года ў сям'і ямайскіх эмігрантаў. Скончыў *City College* у Нью-Йорку з дыпломам геолага, потым – *George Washington Univercity*. 35 гадоў аддаў амерыканскай арміі. З 1989 па 1993 гады ён займаў пасаду старшыні камітэта начальнікаў штабоў Узброеных сілаў ЗША – гэта найвышэйшая вайсковая пасада, якую можа займаць амерыканец. Дзевяць гадоў таму Колін Паўэл кіраваў дзеяннямі амерыканскіх войскаў падчас аперацыі «Бура ў пустыні» ў Іраку. Жонка Альма, трое дзяцей – Майкл, Лінда і Эн, два ўнукі – Джэфры і Браян.

Аналітыкі мяркуюць, што прызначэнне К.Паўэла на пасаду дзяржсакратара – спроба Джорджа Буша прымірыць амерыканскае грамадства, падзеленае доўгім разбіральніцтвам з вынікамі выбараў.

У першым сваім публічным выступе ў якасці новага дзяржсакратара Колін Паўэл паабяцаў узмацніць амерыканскія кантакты з саюзнікамі, а таксама абараніць ЗША ад тых краінаў, што падтрымліваюць міжнародны тэрарызм. «Мы будзем абараняць нашыя інтарэсы з пазіцыі моцы», – заявіў новы дзяржсакратар. Ён таксама заявіў, што «гатовы ўдыхнуць новае жыццё ў аднаўленне санкцыяў супраць Ірака».

Кандыдатуру К.Паўэла падтрымаў старшыня Камітэта па замежных стасунках Сената ЗША Джэсі Хелмс. Ён заявіў, што з адстаўнога генерала атрымаецца «выключны» дзяржсакратар і што Сенат хутка зацвердзіць Коліна Паўэла на гэтай пасадзе.

Новым памочнікам прэзідэнта па пытаннях нацыянальнай бяспекі стала Кандаліза Райс.

Пасаду галоўнага юрыдычнага дарадцы прэзідэнта заняў грамадзянін ЗША іспанскага паходжання – Альберта Гансалес. Апошнім часам ён быў чальцом Вярхоўнага суда штата Тэхас, які лічыцца родным штатам Дж.Буша.

Кіраўнік перадвыбарчага штаба Джорджа Буша Кэрын Х'юз атрымала пасаду памочніка прэзідэнта.

Джордж Буш таксама плануе ўключыць у склад урада прадстаўнікоў Дэмакратычнай партыі. Аднак пакуль што ў яго гэта не вельмі атрымоўваецца. Сенатар Джон Бро адмовіўся ўзначаліць міністэрства энергетыкі. На думку Дж.Буша, Джон Бро выразы стаць лідэрам дэмакратаў у Сенаце.

Да 20 студзеня Джорджу Бушу трэба завяршыць фарміраванне адміністрацыі. Ўчора калегія выбаршчыкаў мусіла афіцыйна абраць яго прэзідэнтам краіны. 6 студзеня 2001 года рашэнне калегіі мусіць зацвердзіць Кангрэс ЗША. А інаўгурацыя мусіць адбыцца 20 студзеня. ■

## Внешняя политика США будет «играть нежно»

Роман ЯКОВЛЕВСКИЙ

Итак, в вашингтонском Белом доме появился новый хозяин. После поднадоевшего многим, но столь необходимого для американцев экзамена по демократии, когда более месяца велся подсчет голосов избиравших своего нового президента, им стал Джордж Буш-младший. Ожидается, что он и его администрация будут проводить несколько иную, в отличие от администрации Б.Клинтона, внешнюю политику. Это порождает прогнозы и ожидания, в частности, у Кремля и его стратегических союзников, которым, первым среди первых, называет себя Беларусь. Они надеются, что республиканская администрация больше будет озабочена внутриполитическими вопросами, нежели мировыми.

После столь ненавистной для нынешнего руководства Беларуси госсекретаря Мадлен Олбрайт, которая всячески ограждала Б. Клинтона от прямых контактов с А.Лукашенко, вместе с новым госсекретарем Пауэллом во многом внешнюю политику США теперь будет определять и Кондолиза Райс. Ей прочат пост помощника президента по национальной безопасности. В системе американской государственной власти этот пост имеет большое значение. Помощник президента по национальной безопасности руководит работой аппарата Совета национальной безопасности. Этот орган разрабатывает стратегию по важнейшим вопросам внешней и оборонной политики США. Достаточно вспомнить, что в разные годы помощниками были такие фигуры, как Збигнев Бжезинский и Генри Киссинджер, который совмещал должность помощника с должностью госсекретаря. Ну прямо-таки, как сейчас в Беларуси. Правда, у американцев госсекретарь возглавляет внешнеполитическое ведомство. Но ведь нынешний госсекретарь Совета безопасности и помощник по национальной безопасности главы государства Урал Латыпов стал им, придя с должности главы внешнеполитического ведомства Беларуси. Так что классическая дипломатическая работа ему не чужда. Можно отметить, что с его приходом, по аналогу с американским Совбезом, решено было и белорусский сделать стратегическим аналитическим центром, убрав в нем так называемую силовую составляющую. Что получится из этой реформы, станет понятно уже в ближайшее время. ►

*Окончание на стр.3*

20 снежня ў 17.00 у музеі М.Багдановіча ў Мінску адбудзецца прэзентацыя бюлетэня **«Трагедыя на Нямізе. Хто вінаваты?»** **(Незалежнае расследаванне).**

Бюлетэнь падрыхтаваны да выдання грамадскім аб'яднаннем **«Прававая дапамога насельніцтву».** **Праваабарончы Цэнтр «Вясна»**

## НАВІНЫ

■ **Ад спынення ЧАЭС, у адрозненне ад самой Украіны, дзе «атамка» давала 5% электраэнергіі, Беларусь не пацерпіць зусім.** Справа ў тым, што мы ўкраінскую энергію не імпартуем. Лінія электраперадачаў паміж краінамі адключаная з-за тэхнічнай несумяшчальнасці: частата току ў Беларусі роўная 50 Герц, а ва Украіне – 47,2 Герц.

■ **Адмоўнае гандлёвае сальда ў Беларусі за 10 месяцаў гэтага года склала 923 мільёны долараў.** З Расіяй наогул 1.488 мільёнаў долараў. Гэта вынік росту коштаў на расійскія энерганосьбіты. Урад прапануе замест рэгістрацыі кантрактаў фірмаў-экспарцёраў увесці ліцэнзаванне відаў экспартнай дзейнасці і скарачаць спіс тавараў з абмежаваннямі на экспарт.

■ **Па дадзеных міністэрства аховы здароўя, зараз у Беларусі 63% лекаў разыходзіцца па льготных рэцэптах альбо наогул задарма.** У сувязі з гэтым тут прапануюць перагледзець сістэму забеспячэння насельніцтва медыкаментамі. Пры гэтым даводзіцца, што бязмоўна бясплатна атрымліваць лекі могуць, напрыклад, тыя, хто пакутуе на цукровы дыябет, туберкулёз і анкалагічныя захворванні.

■ **На 5,8% павялічыліся кошты на цягнікі міждзяржаўных маршрутаў, прычым папярэдняе падаражэнне было напачатку снежня.** У беларускай чыгунцы гэта тлумачаць падвышэннем вартасці швейцарскага франка адносна долара. Справа ў тым, што цэны на праезд чыгункай па краінах СНД усталёўваюцца якраз у адпаведнасці з грашовай адзінкай Швейцарыі.

■ **Беларускі асілак Уладзімір Савельеў устанавіў у нядзелю новы сусветны рэкорд.** Бабруйчанін, які важыць 100 кг пры росце 175 см, падняў паўтарапудовую гіру 320 разоў за 10 хвілінаў. У суме атрымалася 7.680 кг. Савельеў павялічыў сваё ранейшае дасягненне на 35 уздымаў.

## НАДВОР'Е НА ЗАЎТРА




**Курс наяўнага долара на «чорным рынку»** 1210



## Пракурорскі імідж

**Аляксандар ДУБРАВІН**

Я адчуваю слабасць цяперашняй улады, якая выяўляе сваё геройства пераважна ў тэлевізійных эканамічных і палітычных віртуальных перамогах, бо на іншае ні сіл, ні ведаў, ні грошай, ні розуму не стае. Я разумею яе імкненне любым чынам замацаваць свае «заваёвы» і яшчэ болей застрашыць усіх незадаволеных. Уладзе, пэўна, здаецца, што чым мацней яна будзе караць, абліваць брудам і пераследваць сваіх апанентаў, тым спакойней ёй будзе ламаць бясконцыя дровы ва ўпраўленні дзяржавай і злоўжываць беларускай талерантнасцю. Але я ніяк не разумею, адкуль гэтая ўлада бярэ такі пракурорскі тон у размове са сваімі грамадзянамі.

Бадай, нішто так яскрава і дакладна не выдае слабасць усёй хісткай антыдэмакратычнай дзяржаўнай сістэмы, як істэрычныя, пагрозлівыя, пракурорскія інтанацыі яе прыдворных тэлевізійных дыктараў і рэдактараў. Я не буду гаварыць пра аднаго макрагубага рэдкавусага дзятла з вылупленымі вачыма – гэта клінічны выпадак. Не буду гаварыць пра вузкую, худую і злосную, як шчука, шырэйшую ў профіль, чым у фас многастаночніцу. Абыду ўвагай тлустую перачніцу, «апаратыўніцу», якая амаль штовечар сапе і ялдыкае ў эфіры. Хай яны лечацца.

А возьмем, напрыклад, сімпатычнага хлопца Зміцера Косціна. Кім ён мусіць сябе ўяўляць перад тэлекамерай: пракурорам, следчым, участковым? Хай бы ж паглядзеў на сябе хоць раз збоку. Адкуль гэтакія цяжкія доменныя металы ў нашай мілагучнай, лагоднай і меладычнай мове? Здаецца, што ён не проста чытае свае нікому не патрэбныя прапагандысцкія навіны, а сячэ дровы, цягне тачку або таўчэ бульбу для кабанчыка. Гэтакая адказнасць упала раптам на чалавека, што ён ужо быццам і не чалавек, а рупар.

Або вось вам чароўная жанчына, беларуская прыгажуня Ларыса Грынько. Некалі даўно яна агучвала знятыя мной тэлеролікі, і працаваць з ёй тады было адно задавальненне. Але вось што такое імідж! Калі зараз убачыш яе на экране, дык адрыгнешся. Як яна скалечыла свой вобраз, жах! Куды зніклі пяшчота, жаноцкасць, мяккасць? Хоць ты бяры яе адразу ў кіно на ролю Эльзы Кох, якая скуру з людзей жыўцом лупіла.

І так паўсюдна. Міліцыянт здалёк праціне цябе наскрозь поглядам цыклопа, бюракрат у канторы выгаворвае за адсутнасць ерундовай даведкі голасам гестапаўца, кантралёр у электрычцы не білеты правярае, а стаіць з гранатай перад танкам у апошнім акопе. Чалавечнасць і міласэрнасць выходзяць з нашага жыцця, а замест іх прыходзіць злосць, нянавісць і казёншчына. І калі вам не хочацца псаваць сабе настрой, не ездзіце зараз у метро, бо там вы здрыганецеся ад такога ж тонкага, нечалавечага, механічнага, анафемскага голасу: «Не (паўза) падходзіце (паўза) к краю (паўза) платформы».

І што іх прымушае ТАК гаварыць? Няўжо інстынктыўна, вантробамі адчуваюць прыроду цяперашняй улады?

## КРДС выбірае з «тройкі»

**Рыгор БУЯН**

15 снежня Каардынацыйная рада дэмакратычных сілаў (КРДС) назвала тры прозвішчы патэнцыйных прэтэндэнтаў на адзінага кандыдата ў прэзідэнты ад апазіцыйнай кааліцыі.

Безумоўным лідэрам гэтай «тройкі» лічыцца кіраўнік «Рэгіянальнай Беларусі» Сямён Домаш з Гродна, якога падтрымалі 9 з 16 суб'ектаў КРДС: БНФ, БКДП, Хартыя'97, Асамблея НДА і пяць абласных структураў Рады (плюс напалова АГП). Іншыя прэтэндэнты — экс-прэм'ер Міхаіл Чыгір, на якога ставіць АГП, і старшыня Федэрацыі прафсаюзаў Беларускай Уладзімір Ганчарык. Апошні мае падтрымку «прафсаюзных» Беларускай партыі працы, партыі жанчынаў «Надзея», Народнай Грамады Міколы Статкевіча, сяброўства якой у КРДС прыпыненае, а таксама асабіста старшыні БСДГ Станіслава Шушкевіча, які апошнім часам вёў сепаратныя перамовы з Федэрацыяй.

Як сказаў старшыня АГП Анатоль Лябедзька, далейшая хада падзеяў — механізм вызначэння і вылучэння *адзінага* кандыдата, тэрміны вылучэння кандыдата ад аб'яднанае апазіцыі, канчатковае зацвярджэнне якога за Кангрэсам дэмакратычных сілаў — «будзе залежаць ад саміх кандыдатаў». З панядзелка лідэры структураў КРДС распачалі кансультацыі з патэнцыйнымі кандыдатамі. Ад іхняй здольнасці і жадання дамовіцца паміж сабой, знайсці паразуменне будзе залежаць далейшы шлях да адзінага кандыдата.

«Мы прапануем правілы гульні, аднолькавыя для ўсіх. Я лічу, што патэнцыйныя кандыдаты павінны вызначыць свае адносіны. Ні АГП, ні БНФ, ні КРДС не здольныя вызначыць адзінага кандыдата – гэта можа зрабіць працэдура, якая прымаецца ўсімі суб'ектамі», — заявіў А.Лябедзька. У Радзе спадзяюцца, што да наступнага паседжання, якое адбудзецца 23 снежня, такая працэдура з'явіцца. ■

## Вярхоўны Савет запрошаны ў Вену

**Рыгор БУЯН**

Вярхоўны Савет 13 склікання атрымаў афіцыйнае запрашэнне з Вены на паседжанне пастаяннага камітэта Парламенцкай асамблеі АБСЕ, якое мусіць прайсці ў аўстрыйскай сталіцы 23-24 студзеня.

Менавіта падрыхтоўка да гэтага мерапрыемства стала галоўным пытаннем на паседжанні прэзідыума ВС, якое прайшло 15 снежня. Пастаянны камітэт ПА АБСЕ плануе вызначыць, хто – ВС 13 склікання ці Палата прадстаўнікоў 2 склікання – будзе прызнавацца адзіным легітымным заканадаўчым органам на Беларусі.

Пасля рэферэндуму 96-га года і разгону ВС пастаянны камітэт ПА АБСЕ двойчы – у 1997 і 1998 гадах – прызнаваў законным менавіта ВС. У святле непрызнання «палаты №2» вядучымі еўрапейскімі і сусветнымі краінамі ды інстытуцыямі вельмі верагодна, што ВС застанецца законным беларускім парламентам і надалей.

Прэзідыум ВС палічыў мэтазгодным правесці ў канцы студзеня 2001 года сесію, цалкам прысвечаную прэзідэнцкай кампаніі. Між тым ВС не збіраецца падтрымліваць нікога з прэтэндэнтаў быць адзіным кандыдатам у прэзідэнты ад аб'яднанай апазіцыі. ■

## Шэйман даў МУСаўцам пад хвост

**Вячаслаў БУДКЕВІЧ**

Выступаючы 15 снежня перад удзельнікамі рэспубліканскага семінара-нарады з участковымі інспектарамі міліцыі, новы генеральны пракурор Віктар Шэйман выказаў шэраг сур'ёзных крытычных заўвагаў на адрас міністэрства ўнутраных справаў.

«Ваш абавязак — сканцэнтраваць і накіраваць свае сілы на выхаванне законапаслухмяных грамадзянаў, на папярэджанне, выяўленне і прадухіленне злачынстваў. Нельга дапускаць росту сацыяльнай напружанасці ў грамадстве, любыя праявы палітычнага экстрэмізму і антыканстытуцыйных дзеянні, асабліва ў перыяд падрыхтоўкі і правядзення прэзідэнцкіх выбараў павінны жорстка спыняцца», – з такімі ўстаноўкамі звярнуўся Шэйман да праваахоўнікаў.

Крытыка Віктара Шэймана на адрас МУС датычылася і той акалічнасці, што на працягу некалькіх гадоў не назіраецца істотнага павелічэння раскрывальнасці злачынстваў. Так, паводле ягоных звестак, сёлета не раскрыта кожнае трэцяе ўчыненае злачынства.

Гаварыў генеральны пракурор і пра тых грамадзянаў, хто знік без вестак: «не сакрэт, што пошук такіх асобаў часта ажыццяўляецца фармальна, без уліку ўсіх абставінаў знікнення чалавека».

Не забыўся пра хабарніцтва і злоўжыванні службовымі пасадамі сярод міліцыянтаў і пра такую распаўсюджаную з'яву, як незаконныя затрыманні грамадзянаў у якасці падазроных. З ізалятараў часовага ўтрымання вызваляецца кожны трэці затрыманы ў сувязі з непацверджанымі падазрэннямі ва ўчыненні злачынства, маюць месца незаконныя вобыскі, прычым, без санкцыі пракурора з наступным яго фармальным паведамленнем. Сёлета з больш як 2 тысячаў скаргаў на процізаконныя дзеянні і рашэнні супрацоўнікаў міліцыі пракуратура прызнала абгрунтаванай кожную чацвёртую.

Віктар Шэйман паабяцаў, што бліжэйшым часам кантроль з боку пракуратуры за дзейнасцю міністэрства ўнутраных справаў будзе ўзмоцнены. ■

БелаПАН

## Касцёл перапрашае і прабачае

**Сяргей АСТРАЎЦОЎ**

Канферэнцыяй біскупаў каталіцкага касцёла Беларусі быў прыняты знамянальны дакумент — «Акт падзякі, перапрашэння і прабачэння». У ім выказваецца шкадаванне з прычыны таго, што не заўжды пашырэнне веры на беларускіх землях адбывалася згодна з запаветамі хрысціянства. Што не дайшла справа да «паяднання Царквы і касцёла». Што недастаткова абаранялі уніятаў, «якія цярпелі з-за паяднання з каталіцкім касцёлам».

Далей гаворыцца аб прабачэнні за тое, што некаторыя каталікі «супрацоўнічалі з гітлераўцамі, становячыся саўдзельнікамі арыштаў і смерці бязвінных людзей». Біскупы перапрашаюць таксама за тое, што каталікі не заўжды дапамагалі тым, «каго пераследавала таталітарная сістэма». А некаторыя сталі атэістамі і самі пераследавалі вернікаў.

Біскупы прабачаюць адначасова ўсім тым, хто пераследаваў касцёл і вернікаў, хто знішчаў храмы, крыжы і прыдарожныя капліцы, і тым, «хто сілаю партыйнага права выкрэсліваў Бога з сэрцаў людзей». У канцы гаворыцца: «Мы ўсім прабачаем і гэтага прабачэння чакаем, каб жыць у згодзе і супакоі, каб наноў стварыць супольную гісторыю збаўленых людзей, якія прагнуць сузіраць Бога ў вечнасці».

Гэты дакумент, падпісаны старшынём Канферэнцыі каталіцкіх біскупаў Беларусі кардыналам К.Свёнтакам, быў зачытаны ва ўсіх касцёлах. ■

## НДА робяць стаўку на Домаша

**Рыгор БУЯН**

Услед за КРДС і Асамблея няўрадавых дэмакратычных арганізацыяў (НДА), якая аб'ядноўвае каля 430 структураў «трэцяга сектара», 15 снежня вызначыла найбольш прымальную кандыдатуру на адзінага кандыдата ў прэзідэнты. Ім стаў кіраўнік гродзенскай «Рэгіянальнай Беларусі» Сямён Домаш.

Па выніках рэйтынгавага апытання, менавіта ён набраў большасць галасоў: за ягоную кандыдатуру прагаласавалі 26 з 31 сябра Рабочай групы НДА. З астатніх 4 прэтэндэнтаў (старшыні ФПБ У.Ганчарыка, старшыні галіновага прафсаюза работнікаў АПК А.Ярашука, М.Чыгіра і кіраўніка цэнтра абароны СМІ пры БАЖ М.Пастухова) толькі апошні атрымаў два галасы. Пры гэтым сябры Рабочай групы адзначалі, што еднасць аб'яднанай апазіцыі для «трэцяга сектара» ёсць вышэйшай каштоўнасцю, чымсьці якія заўгодна кандыдатуры.

Быў вырашаны і шэраг арганізацыйных пытанняў. Былы старшыня Выканаўчага бюро Асамблеі Алесь Мазур падаў у адстаўку па ўласным жаданні, а новым кіраўніком абраны Юрась Зянкевіч, які і распавёў пра важнейшыя накірункі дзейнасці на бліжэйшы перыяд. Сярод іх — наладжванне сталых юрыдычных кансультацыяў па дзейнасці няўрадавых арганізацыяў і механізму назірання за выбарамі прэзідэнта па ўсёй Беларусі; мабілізацыя выбаршчыкаў на прэзідэнцкія выбары; актыўная дапамога рэгіянальным арганізацыям у пошуку партнёраў у Беларусі і замежжы, а таксама ў пошуку фінансавання сваёй дзейнасці. ■

**ФОТАФАКТ**




Фота Ул.ШЛАПАКА

18 снежня. Плошча Бангалор. «Чаўнакі» вымагаюць вольнага рынку

## «Мэджык» застанецца без тэхнікі?

**Расціслаў ПЕРМЯКОЎ**

Учора Вышэйшы гаспадарчы суд адмовіў Інстытуту «Адкрытае грамадства» ва ўзбуджэнні іску супраць дзеянняў Ленінскай раённай падатковай інспекцыі г.Мінска. Гэта значыць, што ў самы бліжэйшы час падатковікі могуць забраць у незалежнай друкарні «Мэджык» друкарскую машыну.

Падатковая інспекцыя Ленінскага раёна г.Мінска наклала арышт на абсталяванне, якое належыць Інстытуту «Адкрытае грамадства» і выкарыстоўваецца на ўмовах арэнды друкарняй унітарнага прадпрыемства «Мэджык».

У друкарні «Мэджык» выпускаюцца многія беларускія незалежныя газеты, таму, калі яна застанецца без тэхнікі, можна будзе смела казаць пра тое, што свабода слова ў Беларусі сур'ёзна ўціскаецца.

Падатковікі сцвярджаюць, што апісалі друкарскую машыну «за даўгі» Беларускага Фонду Сораса, ад якога яшчэ ў 1997 годзе беларускія ўлады нечакана запатрабавалі заплаціць вялізныя падаткі і які з-за гэтага сышоў з Беларусі.

Аднак калі «даўжніком» застаўся Беларускі Фонд Сораса, чаму фінансавыя санкцыі накладаюцца на маёмасць Інстытута «Адкрытае грамадства», задаліся рэзонным пытаннем прадстаўнікі інстытута – і падалі ў суд на падатковую інспекцыю.

Суд доўжыўся з 30 лістапада па 18 снежня і нарэшце прыняў рашэнне на карысць падатковікаў. Як паведаміў нам генеральны дырэктар УП «Мэджык» Юрый Будзько, істцы дагэтуль не маюць пісьмовага рашэння суда – яно з'явіцца толькі недзе ў чацвер. Таму пакуль судовае рашэнне яшчэ нельга аспрэчыць.

Па словах Ю.Будзько, на сённяшні дзень «Мэджык» працягвае выкарыстоўваць у вытворчасці арыштаваную тэхніку, але прадстаўнікі падатковай інспекцыі могуць у любы момант прыйсці і забраць яе. ■

## Як быць паслухмяным, салдата навучыць кіно

**Надзея СВЯТЛІЧНАЯ**

У Брэсце атабарылася здымачная група кінастудыі «Беларусьфільм». Рэжысёр Анатоль Алай падрадзіўся на грошы міністэрства абароны адлюстраваць хроніку добрага жыцця салдатаў у беларускім войску.

Прэм'ера дакументальнай «ідыліі» павінна адбыцца ў траўні будучага года да дня Перамогі. Дырэктар кінастужкі Алег Сало гаворыць, што фільм пакажуць не толькі па БТ: відэаварыянты растыражуюць на ўсе армейскія клубы. Няма сумненняў, што такім чынам «Беларусьфільм» мабілізаваны на падрыхтоўку да прэзідэнцкіх выбараў. Салдатаў хочуць навучыць быць паслухмянымі падчас галасавання.

У Брэсце кінашнікі здымаюць 38-ю мабільную брыгаду дэсантнікаў. Здымкі былі загадзя прымеркаваныя да гадавой праверкі гэтага вайсковага падраздзялення з удзелам світы афіцэраў з чырвонымі лампасамі. На экранах, аднак, хочуць засвяціцца не ўсе. Напрыклад, міністр абароны Аляксандр Чумакоў, які павінен быў прыняць у Брэсце агляд шыхтоў, неспадзявана «затрымаўся» ў Мінску. ■

## Брэсцкія падарожнікі

**Мікола НЯЗЛОМНЫ**

1.200 долараў на месяц атрымлівае на сваёй новай пасадзе кіраўніка аддзялення амбасады Беларусі ў Калінінградзе колішні старшыня Брэсцкага аблвыканкама Уладзімір Заламай.

Дабрабыт уласны дазваляе яму і дапамагаць эканоміцы рэгіёна. У мінулыя чацвер, пятніцу і суботу У.Заламай суправаджаў на Брэсцчыне прадстаўнічую дэлегацыю з Калінінграда, маючы на мэце асабіста перазнаёміць прыморскіх бізнесоўцаў са сваімі былымі падначаленымі.

Які заробак у ягонага пераемніка ў абласной уладзе Васіля Далгалёва невядома, але такое ўражанне, што сума ягоных камандзіровачных большая за службовы аклад. В.Далгалёў любіць далёкія паездкі яшчэ з тых часоў, калі ён адказваў за інтэграцыйныя працэсы ў СНД.

25 снежня брэсцкі губернатар едзе да мэра Масквы Юрыя Лужкова. У дадатак да бясконцай калькацыі ўжо існуючых пагадненняў, у тым ліку падпісаных пад звон разбітых чарак, былы віцэ-прэм'ер спрабуе дамаўляцца асобна. Трэба ж неяк збыць рэшткі прадукцыі, што ляжаць на складах у Пінску, Баранавічах, Лунінцы, Кобрыне, Пружанах і перавышаюць вытворчыя аб'ёмы 3 і болей месяцаў. ■

## БТ не пускае ў эфір беларускую песню

**Марат ГАРАВЫ**

Кіраўніцтва Нацыянальнай дзяржаўнай тэлерадыёкампаніі адмовілася правесці запіс і трансляцыю па беларускім тэлебачанні вечарыны беларускай песні і паэзіі, якая 19 снежня ў 19.00 адбудзецца ў зале Беларускай дзяржаўнай кансерваторыі.

У акцыі, прысвечанай 30-годдзю творчай дзейнасці вядомых беларускіх кампазітараў Валянціны Сярых і Алега Чыркуна, возьмуць удзел вядомыя выканаўцы нацыянальных песень заслужаныя артысты Беларусі Мікалай Скорыкаў і Якаў Навуменка, Ларыса Грыбалёва, Наталля Танэла, Стэла, а таксама маладыя салісты Дзяржаўнага канцэртнага аркестра Беларусі пад кіраўніцтвам народнага артыста Беларусі Міхаіла Фінберга.

На беларускай мове яны выканаюць папулярныя мелодыі на вершы Ніла Гілевіча, Рыгора Барадуліна, Генадзя Бураўкіна, Валянціны Акулавай, Віктара Шніпа і Міхаіла Ясеня. Завершыць вечарыну папулярная песня «Мы яшчэ сустрэнемся», якая стала адмысловай візітоўкай вядомага амерыканскага выканаўцы беларускіх песень Богдана Данчыка.

Валянціна Сярых кажа, што канцэрт, ініцыятарам якога з'яўляецца маэстра Фінберг, выклікаў вялікую цікавасць у прыхільнікаў нацыянальнай песні і паэзіі. Акцыя падтрымана міністэрствам культуры і Беларускім саюзам кампазітараў (БСК). Але нягледзячы на тое, што яшчэ ў пачатку лістапада заяўка аркестра Фінберга аб поўным запісе канцэрта была накіраваная ў НДТРК, яе кіраўніцтва так і не дало на гэта згоды.

Прычым, паводле словаў кампазітара, сваю адмову запісаць гэтую вечарыну, якая магла б увайсці ў нацыянальны фонд прапаганды беларускай музыкі і паэзіі, дырэкцыя НДТРК матывавала адсутнасцю тэхнікі. ■

БелаПАН

# У прэзідэнты – вярхом на асле

Ірына СТАРЦАВА

14 студзеня 2001 года ў Партугаліі адбудуцца прэзідэнцкія выбары. Днямі Канстытуцыйны суд абвясціў спіс прэтэндэнтаў на гэтую высокую пасаду. Жадаючых атрымаць уладу ў Партугаліі – няшмат, усяго 9 чалавек. Тэарэтычна іх магло быць куды больш – для гэтага трэба толькі сабраць подпісы 7,5 тысяч выбаршчыкаў.

Адзін з кандыдатаў, вядомы ў Партугаліі музыка Мануэль Хаао Віейра, прывёз свае спісы подпісаў вярхом на асле. Для яго такі рэкламны ход – яшчэ адна магчымасць падвысіць сваю папулярнасць.

Тым не менш, больш за ўсё шанцаў заняць кіруючую пасаду – у цяперашняга лідэра Жоржы Сампая, прадстаўніка Сацыялістычнай партыі, які, паводле апытанняў, можа атрымаць каля 55% галасоў. Асноўны ягоны канкурэнт – Хаакім Ферэйра ду Амарал, кандыдат ад Сацыял-дэмакратычнай партыі. Музыка Мануэль Хаао Віейра ідзе як незалежны кандыдат.

Прэзідэнт Партугаліі абіраецца на пяцігадовы тэрмін і не мае выканаўчых паўнамоцтваў. Ён мае права накладваць вета на дзяржаўныя выдаткі, але гэтае вета можа быць пераадолена дзвюма трэцямі галасоў выбаршчыкаў. Апошнія пятнаццаць гадоў ля ўлады знаходзіцца Сацыялістычная партыя, на апошніх выбарах на мясцовым, нацыянальным і еўрапейскім узроўні перамагла менавіта яна. ■

# Жанчыны апранаюць форму

Міхась КАРПОВІЧ

У пачатку студзеня 2001 года першыя 244 жанчыны пойдуць на працу ў нямецкае войска – бундэсвер.

Раней у бундэсверы служылі толькі мужчыны – «слабы пол» меў магчымасць працаваць там толькі ў якасці медыцынскага персаналу або музыкаў вайсковых аркестраў. Сёлета ўсё змянілася – нямецкі парламент унёс папраўкі ў заканадаўства, і жанчыны цяпер могуць несці службу побач з мужчынамі.

Як паведаміла выданне *Bild am Sonntag*, большасць наваборанцаў у спадніцах пойдзе ў сухапутныя войскі, астатнія – у вайскова-паветраныя сілы і вайскова-марскі флот.

Усяго апрануць нямецкую вайсковую форму пажадалі 2.300 жанчынаў, аднак пасля адмысловага тэста на прафесійную прыгоднасць, які адбыўся ў снежні, 80% мусіла адмовіцца ад свайго жадання. ■

# Падарожжа ў Літву стала таннейшым

Расціслаў ПЕРМЯКОЎ

Кошт візаў на ўезд у Літву памеnеў удвая. Камітэт Сейма па знешніх справах унёс прапанову ва ўрад аб памяншэнні кошту літоўскіх візаў, і ўрад вырашыў прыслухацца.

Цяпер аднаразовая віза на ўезд у Літву каштуе 10 даляраў замест 20, групавая віза – 7 даляраў замест 10. Віза для шматразовых падарожжаў патаннела з 40 да 20 даляраў.

Асноўная прычына, чаму так «патаннелі» візы – жаданне стымуляваць развіццё турызму ў Літве. Камітэт па знешніх справах таксама запатрабаваў ад МЗС Літвы як мага больш спрасціць фармальнасці пры выдачы візаў.

Між тым, за апошнія пяць гадоў колькасць жадаючых наведаць Літву ўзрасла на 70%. Турыстычны бізнэс у краіне летась атрымаў у 5,5 разоў болей даходаў, чым 5 гадоў таму. ■

# Самая вялікая ёлка

Ірына СТАРЦАВА

Самая вялікая ў свеце калядная ёлка з'явілася ў Італіі. Жыхары невялікага горада Губія склалі ёлку на схіле халма пры дамамозе 18-кіламетровага электрычнага дроту і 70 электрычных лямпачак. Даўжыня гэтага калляднага дрэва склала 800 метраў, а шырыня – 400. Ззянне самай вялікай ёлкі ўвечары асвятляе цэнтр горада. ■

# Эстонія прадала чыгунку

Расціслаў ПЕРМЯКОЎ

Агенцтва па прыватызацыі Эстоніі прызнала кансорцыум *Rail Estonia* пераможцам у конкурсе па продажы чыгункі. Як паведаміў эстонскі міністр транспарту, цана, прапанаваная *Rail Estonia* – 1,7 мільярда эстонскіх кронаў (прыкладна 95 мільёнаў даляраў), — значна перавышала цэны канкурэнтаў.

Міжнародны кансорцыум *Baltic Rail Service* прапанаваў «усяго» мільярд кронаў, а адмыслова створаны прадпрымальнікамі Эстоніі для прыватызацыі чыгункі канцэрн *Raudtee Erastamise Rahva AS* – і таго менш: 865 мільёнаў кронаў. ■

# Манах-забойца

Міхась КАРПОВІЧ

Хесус Эрнанда Касада, 68-гадовы манах ордэна капуцынаў з манастыра Хесус дэ Мединасэлі ў Мадрыдзе (Іспанія), скончыў жыццё самазабойствам пасля таго, як спрабаваў забіць іншага манаха-капуцына. Канфлікт узнік з-за таго, што абодва ніяк не маглі вырашыць – якую ж тэлеперадачу яны будуць глядзець.

Цела Хесуса Эрнанда Касада было знойдзенае ў мадрыдскім парку, дзе той прыняў вялікую дозу снатворнага і памёр. Ягоная ж ахвяра, 73-гадовы Элеўтэрыя Перас Гарсія, знаходзіцца цяпер у шпіталі. Нягледзячы на 12 нажавых раненняў, медыкі спадзяюцца яго выратаваць. ■

# Тры мільёны даляраў – на каханку

Ірына СТАРЦАВА

На Філіпінах працягваецца справа аб імпічменце прэзідэнту Джозэфу Эстрадзе. Абвінаваўцы на працэсе збіраюцца запрасіць эксперта па почырках з Вялікабрытаніі, каб той устанавіў сапраўднасць подпісу Д.Эстрады.

Філіпінская прэзідэнта абвінавачваюць у карупцыі, хабарніцтве, падмане грамадскага даверу і парушэнні канстытуцыі. Вялікабрытанскі графолаг жа спатрэбіўся, каб устанавіць – ці сапраўды Джозэф Эстрада падпісаў чэк на 142 мільёны песа (каля 2,8 мільёна даляраў), каб аплаціць кошт збудавання новага шыкоўнага асабняка для адной са сваіх шматлікіх каханак.

Цікава, што «справа Эстрады» – вельмі папулярнае на Філіпінах шоу. Для 10 мільёнаў сем'яў, дзе ёсць тэлевізар, праграмы пра імпічмент з поспехам замянілі звычайныя «мыльныя оперы». Штодня ў 14.00 мільёны гледачоў прыпікаюць да сваіх тэлевізараў, а слухачы – да радыёпрыёмнікаў, каб паслухаць апошнія навіны пра імпічмент прэзідэнту. Па сведчанні экспертаў, гэтыя перадачы глядзяць ад 40% да 50% аўдыторыі – своеасаблівы рэкорд папулярнасці. ■

# Чарнобыль закрыўся назаўсёды

Міхась КАРПОВІЧ

**У 13.16 па кіеўскім часе 15 снежня прэзідэнт Украіны Леанід Кучма даў загад на канчатковае закрыццё Чарнобыльскай атамнай электрастанцыі. Вядучы інжынер станцыі Сяргей Баштавой шчоўкнуў рубільнікам – і рэактар №3 спыніўся назаўсёды. Так скончылася 23-гадовая трагічная гісторыя гэтай станцыі.**

Леаніду Кучму давялося закрываць толькі адзін рэактар ЧАЭС. Астатнія тры ўжо спыніліся раней. Як вядома, чацвёрты рэактар выбухнуў уначы 26 красавіка 1986 года падчас тэставай праверкі. Другі рэактар быў спынены 11 кастрычніка 1991 годзе пасля таго, як у машыннай зале адбыўся пажар. Першы рэактар перапыніў працу 30 лістапада 1996 года — скончыўся ягоны тэрмін дзеяння.

Трэці рэактар таксама меў вялікія праблемы. Ён ледзьве не сарваў афіцыйную цырымонію закрыцця. За тры тыдні, што прайшлі да цырымоніі, ён ламаўся тры разы. Першае аварыйнае спыненне працы адбылося 27 лістапада – з-за абрыву сеткі правадоў па ўсёй Украіне. 1 снежня рэактар быў запушчаны зноў, але праз 5 дзён паламаўся. Паламаўся сур'ёзна, і адміністрацыя ядзернага рэгулявання Украіны да мінулага аўторка не жадала даць дазвол на новы запуск. У рэшце рэшт, у ноч з серады на чацвер рэактар зноў запрацаваў, але толькі на 5% сваёй магутнасці, так і не пачаўшы выпрацоўваць электраэнергію. А ўжо ў пятніцу яго ўрачыста адключылі. Назаўсёды.

Але радыяцыйныя праблемы пасля закрыцця ЧАЭС не скончыліся.

На тое, каб ліквідаваць наступствы выбуху, які адбыўся чатырнаццаць гадоў таму, спатрэбіцца не менш за 24.000 гадоў, перакананыя навукоўцы. Менавіта за такі перыяд часу абагачаны плутоній паступова губляе сваю радыеактыўнасць.

Чацвёрты рэактар цяпер хаваецца пад саркафагам, які працягвае развальвацца. Радыяцыя выходзіць праз усе расколіны. За тоўстымі бетоннымі сценамі знаходзяцца яшчэ 170-200 тонаў уранавага і плутоніевага ядзернага паліва, якое так і не атрымалася выцягнуць падчас ліквідацыі наступстваў аварыі. Адмыслоўцы бачаць толькі адно выйсце з гэтай сітуацыі – збудаванне яшчэ аднаго саркафага над тым, што існуе цяпер. Гэта будзе каштаваць Украіне яшчэ 750 мільёнаў даляраў.

У 1986 годзе 800.000 чалавек былі накіраваны на ліквідацыю наступстваў Чарнобыля. Некалькі дзесяткаў тысяч чалавек ужо памерла, сотні тысяч пакутуюць на розныя хваробы, атрыманыя «дзякуючы» радыяцыі. Дакладную лічбу ахвяраў Чарнобыля не ведае ніхто.

Істотна пацярпела ад Чарнобыля і Беларусь. Як вядома, 70% радыеактыўных ападкаў прыйшлося менавіта на нашу краіну. На гэты конт амбасадар Еўрасаюза ў Кіеве Андрэ Ванавербек зазначыў: «Усе эксперты, з якімі я сустракаўся, казалі адно і тое ж: усе тэхналогіі, па якіх працуе Чарнобыль, вельмі небяспечныя. Не забывайцеся, што Украіне вельмі пашанцавала, што ў 1986 годе напрамак ветру быў да Поўначы. Калі б не гэта, Кіеў быў бы цяпер горадам-прывідам». Па афіцыйных дадзеных, каля 2 мільёнаў чалавек – 20% насельніцтва Беларусі – жывуць на забруджаных радыяцыяй тэрыторыях. Па неафіцыйных падліках, такіх людзей куды больш.

Пра небяспеку Чарнобыльскай АЭС кажа і яе генеральны дырэктар Віталій Таўстаногаў. «Як толькі работнік атамнай энергетыкі назваў сваю станцыю бяспечнай, ён мусіць быць ліквідаваны», – менавіта так пракаментаваў генеральны дырэктар заявы сваіх падначаленых пра тое, што Чарнобыль ужо не прадстаўляе небяспекі.

Зрэшты, супрацоўнікаў ЧАЭС можна па-свойму зразумець. Закрыццё станцыі азначае для іх страту працы. Сёння на АЭС працуе 5.791 чалавек. Ужо ў наступным годзе шмат хто з іх будзе звольнены з працы, а ў 2008 годзе персанал станцыі скароціцца да 1.885 чалавек. Практычна ўсе гэтыя людзі жывуць у горадзе Славуцічы з 25-тысячным насельніцтвам. Чарнобыльская АЭС – горадаўтвараючае прадпрыемства для Славуціча, і пасля яе закрыцця гораду пагражае татальнае беспрацоўе.

Галоўная праблема, якая паўстала пасля закрыцця АЭС, гэта яе кансервацыя. Міністэрства паліва і энергетыкі Украіны мяркуе, што трэба кансерваваць абсталяванне станцыі ў будаўнічых канструкцыях і тэрмінам не менш за 30 гадоў. Для кожнага энергаблока тэрмін закрыцця складзе 5-7 гадоў. А з улікам таго, што кожны энергаблок гатовы да закрыцця па-рознаму, то працэс канчатковага закрыцця і кансервацыі можа заняць 8-10 гадоў.

ЧАЭС вымагае таксама пабудовы новага сховішча для адпрацаванага ядзернага паліва. Цяперашняе сховішча недастаткова ўмяшчальнае і мае гранічны тэрмін службы. Новае ж сховішча забяспечыць захоўванне ўсяго адпрацаванага ядзернага паліва ЧАЭС на тэрмін да 100 гадоў.Чакаецца, што яно будзе ўведзенае ў эксплуатацыю ў 2003 годзе.

А пакуль што побач з межамі Беларусі працягваюць сваю працу яшчэ тры атамныя станцыі. Расійская – Смаленская АЭС, украінская – Ровенская АЭС і літоўская – Ігналінская АЭС. Адмыслоўцы з гэтых краінаў пераконваюць беларускі бок у абсалютнай надзейнасці ўсіх станцыяў. ■



# Дзеляць маёмасць Югаславіі

Ірына СТАРЦАВА

**У сталіцы Бельгіі Брусэлі адначасова пачаліся перамовы, скіраваныя на падзел актываў былой Югаславіі. Пра гэта паведаміла агенцтва *BBC*. Прадстаўнікі Босніі і Герцагавіны, Харватыі, Македоніі, Славеніі і Югаславіі зноў абмяркоўваюць магчымасці падзелу актываў і пасіваў былой СФРЮ.**

Перамовы праводзяцца ўпершыню з 1997 года. Яны сталіся вынікам тых палітычных пераменаў, у выніку якіх быў адхілены ад улады галоўны вінаўнік правалу ранейшых перамоваў – Слабадан Мілошавіч. З'яўленне на чале Югаславіі новага лідэра – Васіслава Каштуніцы – дае іншым рэспублікам вялікую надзею на атрыманне свайго кавалка маёмасці.

Былыя югаслаўскія рэспублікі, а цяпер – самастойныя краіны, — мусяць вырашыць лёс 64 тонаў золата. якое захоўваецца ў Швейцарыі, будынкаў амбасадаў у больш чым 100 краінах, фінансавых патрабаванняў да былога Савецкага Саюза і Ірака, а таксама некаторых вайсковых аб'ектаў.

Раней Слабадан Мілошавіч настойваў, што Саюзная Рэспубліка Югаславія з'яўляецца адзінай правапераемніцай былой СФРЮ. І таму Бялград абвясціў сваімі ўсе гэтыя актывы. Цяпер Васілаў Каштуніца робіць інакш – ён прызнаў чатыры іншыя былыя югаслаўскія рэспублікі поўнаварстаснымі партнёрамі на перамовах.

Перад краінамі стаіць цэлы шэраг нявырашаных пытанняў. Першае – гэта калі менавіта распалася СФРЮ? Цэнтральныя інстытуты ўлады перасталі дзейнічаць у 1990 годзе, Славенія і Харватыя абвясцілі пра сваю незалежнасць у 1991 годзе, міжнародная супольнасць прызнала незалежнасць Босніі і Герцагавіны ў красавіку 1992 года. У залежнасці ад таго, як вырашыцца гэтае пытанне, будзе розным і памер актываў, якія трэба падзяліць.

Другое пытанне – якую менавіта маёмасць лічыць дзяржаўнай. Раней Югаславія сцвярджала, што ўся маёмасць была дзяржаўнай, і таму яе трэба ўлічваць пры правядзенні разліку. У адпаведнасці з імі, агульны кошт актываў былой Югаславіі складае 220 мільярдаў даляраў. Іншыя былыя рэспублікі мяркуюць, што трэба дзяліць толькі маёмасць федэральнай дзяржавы, якая ацэньваецца ў 90-100 мільярдаў даляраў.

Трэцяе пытанне – якія менавіта замежныя актывы мусяць быць падзеленыя. У адным з швейцарскіх банкаў былая Югаславія захоўвала 46 тонаў золата. З-за падзення коштаў на гэты метал цяпер югаслаўскія запасы каштуюць прыкладна 400 мільёнаў даляраў – амаль удвая менш, чым 10 гадоў таму. Ёсць яшчэ дэпазіты ў іншых замежных банках у цвёрдай валюце, іхні памер ацэньваецца ў 5 мільярдаў даляраў. Эксперты мяркуюць, што да 80% ад гэтай сумы рэжым Мілошавіча ўжо патрацій. Яшчэ 5 мільярдаў даляраў – даўгі іншых краінаў былой Югаславіі, у асноўным, СССР і Ірака. Ёсць будынкі амбасадаў у больш чым 100 краінах свету – большасць з іх ужо занятая югаслаўскімі прадстаўніцтвамі.

Нарэшце самае галоўнае – як дзяліць? Ёсць некалькі варыянтаў падзелу. У 1992 годзе Міжнародны валютны фонд прапанаваў формулу, якая, праўда, датычыць толькі ягоных крэдытаў. У адпаведнасці з ёй, новая Югаславія мае 36,5%, Харватыя – 28,5%, Славенія – 16,4%, Боснія і Герцагавіна – 13,2%, Македонія – 5,4%. Гэты разлік базуецца на ўнёску кожнай з рэспублікаў у федэральны бюджэт. Але не ўсе згодныя з такім падзелам. Напрыклад, бяднейшая Боснія і Герцагавіна настойвае, што трэба прымаць да ўвагі і колькасць насельніцтва, і іншыя важныя фактары. ■

# Спецслужбы абяцаюць заплаціць за след журналіста

Расціслаў ПЕРМЯКОЎ

**Служба бяспекі Украіны абвясціла ў нядзелю, што гатовая выдаткаваць 100.000 грыўнаў (каля 18 тысяч даляраў) за звесткі пра зніклага журналіста Георгія Гангадзэ.**



Пра гэтую гісторыю мы ўжо паведамлялі, але нагадаем: 16 верасня ў Кіеве пры невядомых абставінах знік вядомы ўкраінскі журналіст, кіраўнік незалежнай інтэрнэт-газеты «Українська правда» 30-гадовы Георгій Гангадзэ.

Больш за месяц таму ў Таращанскім раёне Кіеўскай вобласці быў знойдзены труп без галавы. Меркавалася, што гэта і можа быць Г.Гангадзэ, але дагэтуль няма ні пацверджання, ні абвяржэння гэтай інфармацыі. Слядоў журналіста няма.

А два тыдні таму ва Украіне распачаўся сапраўдны скандал, які дагэтуль турбуе ўсё грамадства. Кажуць, што такога палітычнага крызісу ўлада не зазнала з 1991 года, калі Украіна стала незалежнай.

Старшыня Сацыялістычнай партыі Украіны Аляксандр Мароз прадэманстраваў на паседжанні Вярхоўнай Рады дзве відэакасеты, на якіх былы афіцэр Дзяржаўнай службы аховы маёр Мікола Мельнічэнка абвінавачвае прэзідэнта Украіны Леаніда Кучму і іншых вышэйшых службовых асобаў ва ўчыненні розных злачынстваў – арганізацыі «знікнення» Георгія Гангадзэ, падрыхтоўцы замаху на аднаго з канкурэнтаў Л.Кучмы па прэзідэнцкай гонцы – Наталлю Вітрэнка, і інш. У якасці доказу М.Мельнічэнка прадэманстраваў запіс, які нібыта быў зроблены ў кабінеце Л.Кучмы схаваным лічбавым дыктафонам. Па словах былога маёра, які цяпер хаваецца ў адной з еўрапейскіх дзяржаваў, ён ставіць мэту паклясці канец «беззаконнаму» кіраванню Л.Кучмы. Менавіта дзеля гэтага ён схаваў дыктафон у прэзідэнцкім кабінеце і запісаў размовы Л.Кучмы.

Міністр унутраных справаў Украіны Юрый Краўчанка і кіраўнік Службы бяспекі Украіны Леанід Дзяркач, а таксама сталы прадстаўнік прэзідэнта ў парламенце Раман Бяссмертны назвалі запіс фальшыўкай.

Аляксандр Мароз перадаў «стужкі Мельнічэнка» для незалежнай экспертызы ў Еўропу. Супрацоўнікі галандскага інстытута прыкладных даследаванняў не знайшлі на іх слядоў камп'ютэрнага мантажу і прызналі сапраўднасць аўдыёзапісу, але не змаглі ідэнтыфікаваць галасы суразмоўцаў.

Па версіі М.Мельнічэнка, на стужцы Леанід Кучма дае ўказанне Ю.Краўчанку і Л.Дзяркачу «разабрацца» з непакорным Гангадзэ. Усе тры гэты факт адмаўляюць.

Тэкст «стужак Мельнічэнкі» стаў вядомы вялікаму колу людзей. Тым не менш, друкаваныя выданні не змяшчаюць іх – настолькі размова ўкраінскага прэзідэнта (або «чалавека, вельмі падобнага да ўкраінскага прэзідэнта») багата насычаная рускім матам. Тым не менш, у інтэрнэце знайсці тэкст запісу няцяжка.

Паміж лаянкай украінскі прэзідэнт раіць сваім суразмоўцам знайсці чачэнцаў, «каб скралі яго і вывезлі», «грузіна, падонка», «вывезці яго, распрануць, б..., без штаноў пакінуць, няхай сядзіць».

Тым часам, намеснік генеральнага пракурора Украіны Аляксей Баганец абвясціў, што ледзьве не гэтымі днямі станцыі вядомы вынікі экспертызы цела, якое было знойдзенае ў лістападзе пад Таращай. Тады і стане вядома, ці гэта труп Георгія Гангадзэ, ці не. ■

# Зинаида Гончар: «Завтра «мочить» будут тех, кто сегодня молчит...»

**В белорусских реалиях к любому определению политики обязательно следует добавлять, что «политика – опасное дело». Это подтверждается прежде всего одним из самых циничных способов расправы с политическими оппонентами, который используется в нашей стране – похищениями людей. Сталин говорил: «Нет человека – нет проблемы». Этот каннибальский девиз сегодня взят на вооружение. Тенденция таинственной «пропажи» известных политиков беспокоит многих в нашей стране, но больнее всего она отражается на семьях тех людей, чья судьба до сих пор неизвестна. Зинаида Гончар, жена известного оппозиционного политика Виктора Гончара, рассказывает, как она живет с того времени, когда был похищен ее муж.**




Зинаида Гончар среди правозащитников в День 52-й годовщины Декларации прав человека

***– Какова была первая ваша реакция на исчезновение Виктора?***

– Был шок. Даже в самом страшном сне мне не могло присниться то, что случилось, хотя механизм давления был включен давно. Я думала – могут посадить или еще что-то, но что Виктора могут похитить – не ожидала. Тяжело это перенес сын. Страшно от того, что никто не ищет похищенных людей. Нас пытаются приучить к мысли, что все развивается так, как хочет Хозяин, и ты должен к этому адаптироваться. Складывается впечатление, что этим они пытаются сломить человека, сделать его бессловесным быдлом – молчи, так положено. Жаль, что сегодня такой ситуации пытается противостоять мало людей, ведь завтра «мочить» будут тех, кто сегодня молчит.

***– Ощутили ли вы поддержку после исчезновения Виктора?***

– В первую очередь на эту проблему внимание обратили как раз международные структуры, а от многих друзей и соратников, только вчера приходивших к нам в дом, помощи и поддержки, на которые я рассчитывала, так и не было. Я неоднократно обращалась с просьбой накануне начала переговорного процесса оппозиции и власти в прошлом году заставить Лукашенко выдать пропавших и только потом начинать переговоры. Я считала, что пока не выяснится судьба похищенных людей, садиться с Лукашенко за переговорный стол – аморально.

***– Идет официальное расследование исчезновения вашего мужа, возбуждено уголовное дело. Насколько вы осведомлены о его ходе?***

– Действительно, дело о похищении мужа было заведено 20 сентября 1999 года. Мне неоднократно приходилось давать показания и без протокола беседовать со следователями прокуратуры. У меня сложилось впечатление, что ввиду сильной зависимости всех правоохранительных структур от одного человека, на этих людей оказывается давление, и они не в состоянии делать то, что должны и могут делать в соответствии со своими служебными обязанностями. Поэтому я не вижу результатов следствия, но тем не менее я уверена, что в прокуратуре работают хорошие специалисты, и как только изменится ситуация в стране, все преступления, связанные с похищениями оппозиционных политиков, а также и журналиста Дмитрия Завадского, будут раскрыты. Я со своей стороны хочу заверить, что, как и раньше, готова оказывать содействие следствию в раскрытии преступления.

***– Первым исчез Юрий Захаренко. Ваши семьи были дружны?***

– Юру я знала не очень хорошо. Он бывал у нас несколько раз, а с его женой Ольгой меня познакомило общее несчастье. Когда Захаренко пропал, она первому позвонила Гончару. Уже спустя некоторое время я спросила у Ольги, почему она звонила именно Виктору, ведь у него были более близкие друзья? Она сказала, что только Виктор мог откликнуться и сделать реальные шаги, чтобы помочь в такой ситуации.

***– В этом году ваш сын стал студентом института правоведения. Не было ли у него каких-либо проблем при поступлении?***

– Нет. Как не было их и в школе. Мне казалось, что в первое время после случившегося учителя даже были более снисходительны, чем обычно. К счастью, ему повезло – его окружают умные и порядочные люди.

***– Прошло уже больше года после исчезновения вашего мужа. Когда было труднее всего – сразу, через месяц, полгода, сейчас?***

– Сейчас. Чем дальше, тем труднее. Если сразу думала, что скоро все образуется, станет на свои места, то сейчас все труднее ждать хороших новостей. Живу надеждой, что вот-вот наконец все должно раскрыться, что такое неведение просто не может продолжаться. Не хочу верить, что нас могут держать в этой неизвестности еще очень долго. Мысль, что Виктора нет в живых, просто не укладывается в моем сознании. Мать и родственники Виктора в таком же положении, как и я. Существует много разных версий, но я исхожу из того, что похитившие его – тоже люди. И каким бы врагом ни объявлялся человек, убить его, переступить эту грань для них тоже – смертный грех. У них ведь семьи, жены, дети, и ради чего на такое идти? Что защищать? От кого?

***– После объявления Тамары Винниковой в обществе широко распространяется мнение: дескать, Гончара и остальных исчезнувших, если хорошо поискать, наверняка можно найти в одной из благополучных стран?***

– Пусть ищут! Я всегда говорю – ищите. Я этого и требую. Потому что знаю: такого не может быть, чтобы Виктор оставил нас с сыном и не подавал о себе вестей столько времени. У нас крепкая семья, и подобное просто исключено. Меня иногда спрашивают: может, все же какая-то весточка была за это время? Если бы она была, я бы уже была там, откуда эта весточка пришла, все равно – с Запада, с Востока, из тюрьмы, подвала или еще откуда-то. Говорить можно что угодно и сколько угодно, но попробуйте себя хоть на мгновение поставить на мое место – в вашем восприятии все изменится. А что касается Винниковой, я рада за нее: нашелся человек, слава Богу. Плохо, что на этом пытаются спекулировать. Мы не знаем всех обстоятельств, но когда-нибудь узнаем, что произошло на самом деле и с ней.

***– Изменила ли случившаяся беда ваше восприятие жизни и людей?***

– Многое я вычеркнула из жизни. Это касается и людей, которых я принимала в своем доме, но которые после похищения Виктора так ни разу и не пришли ко мне, не спросили: как я живу, какие у меня проблемы, что можно посоветовать и чем нам помочь. Так не должно быть. Не надо забывать, что случившееся год назад с Гончаром может случиться при определенных обстоятельствах и с другими политиками, у которых также есть семьи, жены, дети, которые также, как и я, будут ждать поддержки. «Только слабые совершают преступления, сильному и счастливому они не нужны», – говорил французский мыслитель Вольтер. Поэтому я не могу согласиться с теми, кто видит в методах политической борьбы, которые используются режимом Лукашенко в Беларуси, проявление силы. Наоборот, если власть расправляется с инакомыслием подобными методами, – это слабая власть. Такой режим долго существовать не может. ■

**Интервью брала Татьяна РЕВЯКО**

# Чужая жизнь – копейка

## Белорусские летчики гибнут в «горячих точках», их семьи получают страховку в размере 3 долларов

**Наталья РАДИНА**



**29 сентября 1998 года самолет Ан-24 компании «Гомельавиа», выполнявший рейс по маршруту Джафна - Коломбо, через несколько минут после взлета пропал с радаров. Как оказалось – навсегда. О судьбе командира экипажа Анатолия Матошко, 2-го пилота Сергея Лысоиванова, штурмана Сергея Козлова и бортинженера Сергея Оноприенко, 48 пассажиров и трех бортпроводников из местных жителей по сей день ничего не известно. Гомельская транспортная прокуратура склонялась к версии, что исчезновение белорусского самолета — дело рук тамильских сепаратистов. Спустя два года после происшествия гомельчан признали погибшими.**

Какое же задание выполняли гомельские пилоты в Шри-Ланке, где гражданская война не утихает уже 17 лет? Что это за служебная командировка в страну, где за это время в войне погибло более 60 тысяч человек?

### Поставки вооружений

Официальная версия безобидна. Дескать, посылать самолеты и экипажи в далекие государства сейчас заставляет жизнь – нужно как-то зарабатывать и предприятию, и летчикам авиаотряда. Как правило, нашу авиацию фрахтуют не очень благополучные в смысле политической стабильности государства. Но при безденежьи приходится идти на определенный риск.

Возможно, это единственная причина полетов в воюющие страны «третьего мира». А возможно и нет. О том, что Беларусь наряду с Россией входит в десятку крупных мировых экспортеров вооружений, сегодня уже не скрывают даже на официальном уровне. Наиболее успешно торговля ведется именно со странами «третьего мира».

Компания «Белтехэкспорт», белорусский спецэкспортер вооружений, в этом году заключила выгодный контракт с Алжиром на поставку крупной партии военных истребителей Миг-29УБ. Эта же компания в 1998 году попала в неприятную историю: российский канал НТВ передавал, что именно она занималась отправкой белорусских летчиков в воюющую Сьерра-Леоне, где они полгода провели в тюрьме. Тогда же ходили разговоры, что ЗАО «Белтехэкспорт» якобы намеревалась отправить на работу в Турцию и Иран около 10 пилотов, для которых на авиабазе в Кобрине готовились боевые вертолеты Ми-24. «Белтехэкспорт» эту информацию упорно опровергал.

Не так давно и эксперты Лондонского международного института стратегических исследований (*IISS*) приводили данные по поставкам Беларусью оружия Судану: в частности, фигурировали истребители-штурмовики. Несколько ранее Сьерра-Леоне якобы закупила в Беларуси вертолеты Ми-24. Но согласно официальной информации, «Белтехэкспорт» не работал с указанными странами.

На мысль о том, что не все так просто в заграничной работе белорусских пилотов, навел генеральный директор «Гомельавиа» Валерий Кулаковский. Он отказался ответить на вопрос НАШАЙ СВАБОДЫ, что делал гомельский экипаж в Шри-Ланке, но зато сообщил, что пилоты «Гомельавиа» сегодня работают в не менее «горячих» Конго и Гвинее.

Пожелавший остаться неизвестным летчик гражданской авиации конфиденциально рассказал корреспонденту НАШАЙ СВАБОДЫ, как он работал в Африке по контракту с одной из фирм дальнего зарубежья. Там, в одной из стран, он вместе с экипажем (также граждане Беларуси) должен был перевозить гражданские грузы. По его словам, наши пилоты на деле оказались перевозчиками военных грузов и солдат.

### Уцененная жизнь

Итак, не вернувшихся с неизвестного задания гомельчан А.Матошко, С.Лысоиванова, С.Оноприенко и С.Козлова признали погибшими. Компания «Гомельавиа» наконец выплатила семьям пилотов долгожданную страховку. Но жены летчиков Тамара Лысоиванова, Елена Оноприенко, Мария Козлова и Зоя Матошко отказались от денег. Жизни их мужей оценили в сумму от 3 до 8 долларов.

На вопросы НАШАЙ СВАБОДЫ отвечает жена 2-го пилота пропавшего самолета АН-24 Тамара Лысоиванова.

***—Тамара Семеновна, какую сумму получили семьи экипажа самолета АН-24?***

– Мне с двумя детьми и свекром компания предложила выплатить страховку в размере 9 тысяч 375 рублей. Семье Сергея Оноприенко, у которого остались жена с двумя детьми и престарелые родители, – 7,5 тысяч рублей, жене Анатолия Матошко, его сыну и пожилой матери – 4 тысячи 166 рублей.

***– Откуда взялась эта невероятно ничтожная сумма?***

– Перед отправкой в Шри-Ланку «Гомельавиа» страховал наших мужей на сумму в 12,5 недеминированных миллионов белорусских рублей. Даже в то время эта сумма не составляла 100 долларов. Из-за инфляции эти деньги превратились в ничто. Причем, насколько мне известно, свой самолет «Гомельавиа» застраховал на приличную сумму в долларах, а людей – на пустяк в рублях...

***– Вы знали, как ваш муж рискует, работая на Шри-Ланке?***

– Если бы я знала, разве бы я его отпустила? Да и он сам не знал, я уверена. Он бы не смог мне не рассказать. Все случилось неожиданно. Мы собирались в отпуск. И вдруг возникла необходимость экстренно оформить документы и лететь на Шри-Ланку.

***– Но ведь никто не имел права в приказном порядке заставить Вашего мужа лететь в Шри-Ланку?***

– Да, это так. Но ведь нужно было предупредить, чем чревата такая работа. Я думаю, что они не знали о возможной опасности.

***– За эти два года, пока ваш муж числился пропавшим без вести, получали ли вы от «Гомельавиа» какие-нибудь деньги?***

– Согласно законодательству, первый год отсутствия моего мужа «Гомельавиа» ежемесячно выплачивала мне среднюю «летную» зарплату. По истечении года эти поступления иссякли. Только сейчас, после признания его погибшим, я имею право получать пенсию на детей из-за потери кормильца.

***– Что вы намерены предпринять?***

– Мы подали в суд иск к компании «Гомельавиа» о возмещении нам морального ущерба. «Гомельавиа» не признает за собой вины, а судья пока предлагает нам уладить спор мирным путем.

### Куда сегодня летят гомельские пилоты?

В Демократической Республике Конго сегодня идет «первая мировая африканская война». Кланы воюют с кланами, этносы с этносами. Часть территории Конго находится под контролем мятежников, которых поддерживают соседние Руанда и Уганда.

«Местом повсеместных нарушений прав человека является регион Великих озёр. Сотни мирных граждан были убиты силами безопасности в Демократической Республике Конго и в Республике Конго» (из заключения международной правозащитной организации *Amnesty International*).

Гвинейская Республика находится по соседству с государствами, в которых разгорелись кровавые внутриполитические конфликты. Это сепаратистская «герилья» в сенегальской провинции Казаманс, гражданские войны в Либерии и Сьерра-Леоне (за последние 9 лет там убито около 75 тысяч человек).

Гибнут там не только наши летчики. 12 августа этого года в районе аэродрома города Чикапы (Конго) по неизвестной причине разбился пилотируемый белорусским экипажем самолет АН-26. 19 апреля 2000 года в Конго разбился российский самолет АН-8 авиакомпании *Rwanda Air Force*. Погибли 4 российских члена экипажа, 5 офицеров и солдаты.

30 марта 2000 года в Шри-Ланке разбился украинский самолет АН-26. Самолет был зафрахтован ВВС Шри-Ланки для перевозки солдат, раненых в боях между правительственными силами и «Тиграми освобождения Тамил Илама».

И, к сожалению, приходится думать, что это не последние смерти авиаторов, вынужденных из-за нищенской зарплаты соглашаться на работу в странах, где происходят вооруженные конфликты. А государство, которое бесспорно имеет свой интерес в их рискованной работе, будет и дальше страховать жизнь этих людей на сумму до 10 долларов. ■

ЭКСПРЭС

# Прогнозы, долги, расчеты...

### Великобритания простила долги двадцати беднейшим странам

Правительство Великобритании списало долги в размере полутора миллиардов долларов 20 беднейшим странам мира и намерена сделать аналогичный шаг в отношении еще 21 страны.

Министр финансов Гордон Браун заявил, что долги восьми стран — среди них Камерун, Гондурас и Сенегал — будут списаны немедленно. Еще 12 стран выйдут из списка должников к новому году. Их правительства выполнили все необходимые условия для списания долгов.

### Евро стремится оправдать прогнозы

Сегодня на азиатских валютных торгах курс доллара по отношению к евро достиг самой низкой за последние 11 недель отметки. Если в четверг в Нью-Йорке евро торговался по 88,86 цента за евро, то сегодня курс валюты объединенной Европы составляет уже 88,92 цента за евро.

### Коммунальные услуги подорожали почти в 8 раз

В ноябре в Беларуси снова возросли тарифы на многие виды коммунальных услуг для населения. Так, по сравнению с октябрем на 10,5% подорожали газ, горячая, холодная водя и канализация, настолько же возросла квартплата (техобслуживание), на 9% — плата за пользование лифтом, на 21% — за вывоз и обеззараживание отходов.

В ноябре в расчетных листах снова возникла графа «отопление». Тариф на утепление одного квадратного метра общей площади квартиры сейчас равен 56,7 рубля. Это в 5,8 раза больше, чем в апреле — последнем месяце прошлого отопительного сезона.

С начала года квартплата и тарифы на коммунальные услуги возросли в 1,8-7,7 раза. Больше всего подорожали отопление и горячая вода - в 7,7 раза.

### Нацбанк пытается удержать курс доллара в пределах 1.200 «зайчиков»

Как сообщил советник председателя Нацбанка РБ Михаил Ковалев, «до конца текущего года курс доллара не поднимется выше отметки в 1.200 белорусских рублей». По его мнению, спрос на иностранную валюту, который наблюдается в конце года, связан с психологическим фактором, а не с увеличениями заработков некоторым категориям работников бюджетной сферы. В ноябре и декабре уровень инфляции будет не больше 4%.

### Долги за электроэнергию достигли уровня в 200 миллионов долларов

На 1 декабря белорусские предприятия-потребители электроэнергии были должны 190 миллиардов рублей за электричество (почти 200 миллионов долларов). Количество должников достигло 6.100 субъектов — без учета сельхозпредприятий, которые имеют льготы по оплате. В результате этого был введен режим ограниченной подачи энергии на более чем 3 тысячах предприятий, а 942 вообще отключили за несвоевременную оплату.

### Столичный бюджет в следующем году составит 750 млрд. рублей

70% от этой суммы городские власти обещают направить на социальные программы, образование, охрану здоровья, субсидии на жилищное строительство. На ремонт старого жилья власти «отвалят» 195 млн. руб., на благоустройство города — 187 млн. рублей.

### Задолженность по зарплате в Витебской области достигла 1 миллиона долларов

Александр Лукашенко еще летом обещал повысить заработную плату на 50% во время своих поездок по регионам страны. Результаты его работы в этом направлении можно оценить уже сейчас: 245 субъектов хозяйствования только в одной Витебской области имеют задолженность по заработной плате перед работниками общей суммой около 1 миллиона долларов США, 90% из них приходятся на сельскохозяйственные предприятия.

### Решить проблему расчетов за нефтепродукты на дорогах Беларуси, России и Польши поможет система «Берлио»

Система действует на автозаправочных станциях вдоль главных магистралей на Москву, Санкт-Петербург, Варшаву и Берлин, а также на пограничных переходах с Германией, Чехией. Кредитные карты «Берлио» готовы принимать все крупные операторы топливного рынка. Это такие компании, как «Лукойл» и «Славнефть», «Экоцвет», «Юнайтед компани», «Айдс-АЗС». Число участников проекта пополнилось ЗАО «МНПЗ-продукт», а также всеми областными нефтебазами республики.

Подготовил Андрей КАРПОВИЧ

# Нацыя падобная на...

Міхал ЗАЛЕСКІ




Калі чытаеш газеты, складваецца ўражанне, што нацыя напружылася ў прадчуванні чарговага аргазму дэмакратыі. Паглядзіш навокал, паслухаеш людзей і разумееш: акрамя брыдкай зімы ніхто нічога не чакае і акрамя ўласных праблемаў мала чым заклапочаны.

І гэта натуральна. Народы заўсёды з надзеяй і жахам вітаюць сваіх правадыроў, потым урачыста хаваюць іх, забываюць і працягваюць жыць. Менавіта ў жыцці, прыватным, сямейным, асабістым, для большасці галоўнае. Электаратам не нараджаюцца, а робяцца ў той самы спосаб, што і ваеннаабавязанымі.

Маса патэнцыйных выбаршчыкаў – аб'ект дзеля суб'ектаў зацікаўленых ва ўладзе і завернутых на палітыцы. Але іншы раз нават ім някепска зірнуць на асаблівасці аб'екта аб'ектыўна, гэта працвярэжвае.

Нацыя беларуская не надта вялікая і не тое каб малая. Месціцца яна ў сёмай дзесятцы сусветнага рэйтынгу. Дык возьмем пяць краінаў большых за нашую і пяць меншых. Сярэдняе адхіленне колькасці іхняга насельніцтва ад той, што зарэгістраваная ў краіне апошнім перапісам, дазваляе параўноўваць дэмаграфічнае становішча з дастатковай дакладнасцю. Хаця на самай справе нас ужо меней за дзесяць мільёнаў.

Асабліва не хапае нам мужчынаў. Бо яны не дажываюць да пенсіі і паміраюць, адпіўшы ўсе нутраныя і знешнія органы, пашкоджаныя наступствамі Чарнобыльскай катастрофы. На братняй Кубе і ў іншых трапічных краінах жанчыны хварэюць і паміраюць часцей за мужчынаў, бо бедныя і родзяць шмат дзяцей, а тое і другое небяспечна. Так ці інакш, але відаць, што Беларусь – краіна еўрапейская.

Наяўнасць у краіне мужчынаў і жанчынаў вядзе да з'яўлення дзяцей і неабходнасці аб іх клапаціцца. Па гэтым паказчыку мы нагадваем краіны, дзе шмат гарадоў альбо дзе месціцца старая цывілізацыя. Зноў жа Чарнобыль уплывае. Але апытанні паказваюць, што ў сваіх рэпрадуктыўных паводзінах беларусы не дажыліся яшчэ да «мемарыяльнай» стадыі.

Жыццё, як і даўней, мае дзеля нашага народа сэнс і прыцягальнасць. Але вызначаць спосаб гэтага жыцця будуць не тыя, што прагнуць пераменаў, а старыя, каторым патрэбная нязменнасць жыццёвага ладу.

Тыя, хто заўсёды кажа: «Пачакай, супакойся, вернемся, до...». Пры нармалёвым раскладзе жыцця гэтая функцыя старых спрацоўвае на 100% і пазбаўляе грамадства бязглуздай і ліхаманкавай пераменлівасці. Калі ў краіне няма працэдураў, што даюць дарогу маладым, пачынаецца распаўсюджванне чатырыжды герояў з правам нашэння на абедзвюх грудзях.

Беларусі пашанцавала. Наша дэмакратыя маладая. Яе працэдуры не акасцянелыя, яе гарант і ягоныя памочнікі — людзі маладыя. Яны рыхтуюць выбары, што стануць узорам дзеля ўсяго свету. Тым больш ёсць з каго выбіраць: гэта 5,2 млн.чалавек старэйшых за 35 гадоў. А сярод іх 60.000 мужчынаў – аднагодкаў А.Лукашэнкі.

Паколькі ваш карэспандэнт ёсць беспрабудным анархістам, то яму проста смешна слухаць і чытаць пра пошукі «АДЗІНАГА», каб замяніць ім «НЕЗАМЯНІМАГА». Лепей паглядзелі б крыху на іншыя рэчы. Хто будзе карміць адзінага і незамянімага разам з паважанымі чытачамі, як яны зробяцца старэйшымі?

Папярэдні аналіз паказаў, што пры поўнай роўнасці асобаў рознай плоці і незвычайнай дэмакратыі стымулам дзеля самаэксплуатацыі мужчынаў з'яўляюцца секс і кармленне дзяцей. Гэтая неабходная працавітасць выяўляецца ў фактах.

Дадзеныя датычацца мужчынаў і жанчынаў у працаздольным ўзросце, гэта значыць, адпаведна, да 60 і 55 гадоў, якія працавалі ў матэрыяльнай вытворчасці. Згаданы прыбытак прынесены імі за 36 гадоў працы. Дарэчы, усё насельніцтва працаздольнага ўзросту прадукуе ў два разы болей нацыянальнага прыбытку, чым спажывае.

Калі паглыбіць аналіз, выяўляецца, што ва ўсіх узроставых групах, пачынаючы з 20 гадоў, вытворчасць нацыянальнага прыбытку перавышае ягонае спажыванне. А ва ўзросце 30-45 гадоў перавышэнне складае 3-4 разы.

Але трэба падкрэсліць, што далёка не ўсё насельніцтва занятае ў вытворчай сферы. Палову складаюць утрыманцы. З другой паловы, што працуе, — чвэрць занятая ў «невытворчай сферы».

Калі пералічыць усё на сярэдняга прадстаўніка генерацыі, то атрымліваецца, што перавышэнне вытворчасці над спажываннем пачынаецца не раней чым ва ўзросце 27-28 гадоў.

Такім чынам, дзякуючы росту смяротнасці, бо сярэдні ўзрост мужчынаў імкліва набліжаецца да года выйсця на пенсію, ацалелыя ўсё яшчэ атрымліваюць магчымасць спажываць зробленае нябогамі на вытворчасці.

А што будзе далей? Адкуль возьмуцца дзеля нашых кароткажывучых мужчынскіх элементаў умовы для плённай працы? Нарэшце, чаму ніхто не спрабуе пацешыць паспаліты люд зразумелай праграмай жыцця на бліжэйшыя гады?

Мабыць, навучаныя падзеямі апошніх гадоў, баяцца народ вучыць. ■

ВЫТВОРЧАСЦЬ І СПАЖЫВАННЕ НАЦЫЯНАЛЬНАГА ПРЫБЫТКУ, ТЫС. ДОЛАРАЎ

| | мужчыны | жанчыны |
|---|---|---|
| Вытворчасць | 214 | 165 |
| Спажыванне | 82 | 69 |
| Сальда | 132 | 96 |



# Беспрацоўе: жаночае аблічча і юнацкі характар

Алена ЛАБАНАВА

У мінулы аўторак была прынятая Дзяржаўная праграма занятасці насельніцтва на 2001 год.

Па словах старшыні Камітэта па занятасці насельніцтва пры міністэрстве працы Дзмітрыя Ванеева, колькасць беспрацоўных па краіне складае на 1 снежня 2000 не болей 2% ад колькасці працаздольнага насельніцтва. Самая лепшая сітуацыя ў Мінску – 1,29%, а горшая ў Магілёўскай вобласці – 2,13%. У некаторых гарадах і раёнах узровень беспрацоўя яшчэ вышэй: у аўтсайдэрах апынуліся мястэчка Мікашэвічы Лунінецкага раёна (3,1%), Смаргонскі і Калінкавіцкі раёны (3,3%), Пастаўскі (3,4%), Ганцавіцкі раён (3,5%), горад Светлагорск і Светлагорскі раён (3,9%).

Афіцыйная статыстыка адлюстроўвае толькі колькасць беспрацоўных, што зарэгістраваныя ў службах занятасці. Так званае прыхаванае беспрацоўе ў Беларусі, па словах Д.Ванеева, складае 8%.

На пачатак снежня ў службах занятасці зарэгістравана 96,7 тысячы беспрацоўных з 376,5 тысячаў грамадзянаў, маючых патрэбу ў працы. Зніжаецца адукацыйны ўзровень беспрацоўных — больш 60% беспрацоўных маюць сярэднюю адукацыю. Палова ад усіх беспрацоўных складае моладзь 16-29-гадовага ўзросту, прычым кожны чацвёрты – выпускнік школы.

Жанчынаў па дапамогу у працаўладкаванні звяртаецца меней, чым мужчынаў, але мужчыны ўладкоўваюцца хутчэй. З зарэгістраваных беспрацоўных жанчынаў толькі трацінa знаходзіць працу, і таму сярод тых, хто стаіць на ўліку больш аднаго года, 80% менавіта жанчын.

Больш за 60% тых, хто звярнуўся ў службы занятасці, уладкоўваюцца на працягу аднаго месяца, а сярэдні тэрмін беспрацоўя цягнецца 3,1 месяца. Наогул працаўладкоўваецца толькі палова беспрацоўных, бо свабодных вакансіяў у 2 раза меней, чым саміх беспрацоўных. Вельмі цяжка даводзіцца службоўцам і спецыялістам, бо 82% вакансіяў прызначаныя для рабочых, а іх сярод вымагаючых працы толькі 67%. Да таго ж на 80% працоўных месцаў, якія прапануюцца біржамі працы, заробак ніжэй мінімальнага спажывецкага бюджэту!

Для такіх катэгорыяў беспрацоўных прадугледжаная дапамога па стварэнні новых працоўных месцаў, у тым ліку спрыянне ў арганізацыі прадпрымальніцкай дзейнасці. Такім чынам з падтрымкі службаў занятасці прадпрымальнікаў у 2000 годзе стала больш на 800 чалавек.

Праводзіцца прафесійная пераадукацыя незапатрабаваных спецыялістаў па неабходных грамадству спецыяльнасцях – будаўніцтва і прамысловасць. Калі ў 1994 годзе прайшлі такую пераадукацыю каля 5% беспрацоўных, то ў 2000 годзе — ужо 9%, і толькі дзякуючы гэтаму расце колькасць працаўладкаваных.

Тыя беспрацоўныя, хто не мае на тое супрацьпаказанняў, павінны па 2 дні на месяц адпрацаваць на «работах, неабходных грамадству». Гэта можа быць як упарадкаванне Батанічнага саду ці ваенных могілак, так і выратаванне ўраджаю. Калі адмовішся ад такой працы, табе перапыняюць выплату грашовай дапамогі – каля 4 тысячаў на месяц. А аплата за адзін дзень на грамадскіх работах складае прыкладна каля 2 тысячаў рублёў.

Паводле Дзяржаўнай праграмы занятасці насельніцтва на наступны год, выплата грашовай дапамогі па беспрацоўі будзе залежаць не ад мінімальнай заработнай платы, як зараз, а ад мінімальнага спажывецкага бюджэту. Па словах Д.Ванеева, «дапамога вырасце, але настолькі, каб дазваляць матываваць беспрацоўнага да працы».

Колькасць беспрацоўных, па папярэдніх прагнозах, не ўзрасце больш за 2%, нягледзячы нават на абвешчанае скарачэнне Узброеных Сілаў. Для вайскоўцаў заканадаўствам пры звальненні ўстаноўленая выплата павышанай дапамогі і прыярытэтныя курсы перападрыхтоўкі. Як сказаў старшыня Камітэта па занятасці насельніцтва, «будзе цяжка», але цяжэй будзе, калі адбудзецца скарачэнне чыноўнікаў, бо «дзяржслужачых працаўладкаваць цяжэй, чым прапаршчыка». ■

# «Беларусь – прывабная для многіх»

## На пытанні карэспандэнта Нашай СВАБОДЫ адказвае першы сакратар пасольства ЗША ў Беларусі пан Майкл РАЙНЕРТ

***— Спадар Райнерт, Вы знаходзіцеся ў нашай краіне некалькі месяцаў. Якой Вам здалася Беларусь «з першага позірку»?***

— Беларусь выглядае дастаткова еўрапейскай краінай. Я, безумоўна, разумею, што існуе вялікая розніца паміж тымі, хто жыве ў горадзе і ў вёсцы. Але гэтак у любой краіне. Мне тут вельмі падабаецца, адчуваю сябе як дома. Беларусь знаходзіцца на перакрыжаванні шляхоў, і гэткае становішча робіць яе прывабнай для многіх. Я працаваў у Чылі і Іспаніі, калі гэтыя краіны заканчвалі свой пераход да дэмакратычнага статусу. Падобныя прыкметы я бачу і ў Беларусі.

***— Беларуская культура дапамагае ў спасціжэнні новай для Вас краіны, характару і менталітэту тутэйшых жыхароў?***

— Яшчэ да прыезду сюды я ведаў, што Беларусь мае рэпутацыю краіны з лепшым балетам ва Усходняй Еўропе, з лепшымі артыстамі. Для мяне было нечаканым, што білет на оперу ці на балетны спектакль каштуе ўсяго толькі пару долараў. У Вашынгтоне альбо Нью-Йорку падобнае мерапрыемства абыдзецца ў 60-70 долараў. Мастацкі ўзровень спектакляў, канцэртаў, якія я ўжо бачыў у Мінску, вельмі высокі.

***— Сапраўды, у нас парадаксальная сітуацыя: высокі ўзровень нацыянальнага мастацтва і нізкі жыццёвы. У большасці насельніцтва не хапае грошай на білет у тэатр нават па той цане, якая Вам здаецца нізкай. Большасць абыходзіцца тэлевізарам: глядзяць фільмы, «тэлепадарожнічаюць» па розных краінах. Першае знаёмства мільёнаў людзей ва ўсім свеце з Амерыкай пачынаецца з мультфільмаў Дыснея і працягваецца знаёмствам з новай прадукцыяй «фабрыкі мрояў» – Галівуда. Чаму менавіта кінематограф лідзіруе ў культуры ЗША?***

— Галівуд узнік таму, што там магчыма было развіваць камерцыйную кінавытворчасць. Амерыканскае кіно, хачу заўважыць, не атрымлівала і не атрымлівае ніякай дапамогі ад дзяржавы. Для параўнання: у Еўропе вытворцы кіно маюць дзяржаўныя субсідыі. Амерыканцы ж наймацней здымаюць кіно, каб на гэтым зрабіць грошы. Кіно ў гэтым выпадку павінна глядзець мноства людзей. Менавіта таму амерыканцы навучыліся рабіць стужкі, на якія ходзіць шырокая публіка. Дзеля гэтага трэба спалучаць эканамічныя рашэнні з творчымі. Таму адразу і не скажаш, што больш уласціва амерыканскім кінавытворцам: ствараць масавую культуру ці толькі адлюстроўваць яе. Але ёсць нямала амерыканскіх стужак, што ўвайшлі ў «залаты» фонд сусветнага кіно і адначасова далі вялікія даходы сваім стваральнікам.

***— У свеце ўжо даўно гавораць аб небяспецы амерыканскага культурнага імперыялізму. Прычым, экспансія амерыканскай культуры выклікае заклапочанасць не толькі краін Азіі ці Афрыкі, але і Еўропы. У чым тут, на Вашу думку, праблема? Ці не ўзнікаюць у сувязі з гэтым цяжкасці ў вашай рабоце?***

— У ЗША няма міністэрства культуры, як у іншых краінах. І ў нас адсутнічае дзяржаўная палітыка ў галіне культуры. Няма ніякага плана, згодна з якім распаўсюджваецца амерыканская культура па свеце. Няма чыноўнікаў, што ажыццяўляюць тыя ці іншыя дзяржаўныя праекты. Калі коратка сфармуляваць тое, што вызначае стратэгічную лінію паводзінаў дзяржавы ў гэтым накірунку, то гэта будзе забеспячэнне свабоды культуры і свабоды самавыяўлення творцаў. Усе тыя фільмы і праграмы, якія вы можаце бачыць, створаны на прыватныя грошы, прыватнымі фірмамі, без усякага ўдзелу дзяржавы. У ЗША культура мае адзін з самых свабодных рынкавых сектараў. Нашы стужкі купляюць для пракату ў іншых краінах толькі з той прычыны, што яны запатрабаваныя гледачом. І справа зусім не ў амерыканскім культурным імперыялізме. Людзі робяць выбар на карысць амерыканскай культуры.

***— Паміж амерыканскай масавай культурай і тым, што называлася савецкай культурай, шмат агульнага: стандартызацыя, разлік на масавага спажыўца, даступнасць, прапаганда, адпаведна, амерыканскага ці савецкага ладу жыцця. Прытым абедзве культуры былі ідэалагічнымі антыподамі. Савецкая культура абрушылася разам з СССР. Якія перспектывы ў амерыканскай масавай культуры?***

— У Амерыцы людзі вольныя выбіраць, які тып культуры ім больш даспадобы. У любым амерыканскім буйным горадзе ёсць шырокі выбар культурных установаў: шмат добрых музеяў, тэатраў, спартыўных залаў. Натуральна, і масавая культура разлічаная на ўсе густы: тэлебачанне, кіно, музыка. Амерыканцы, дарэчы, могуць глядзець 200 каналаў тэлебачання. Напэўна, усё ж праўда, што большасць амерыканцаў аддае перавагу масавай культуры. Але тое ж самае, мы можам сказаць, адбываецца і ў Еўропе.

***— Якія культурныя ініцыятывы плануе рэалізаваць у бліжэйшы час амерыканскае пасольства ў Беларусі?***



— У нас вялікая праграма абменаў. І па гэтай праграме мы адпраўляем беларусаў у ЗША, каб яны маглі вучыцца і больш даведацца пра нашу краіну. За 2000-ы год больш за 250 чалавек атрымалі гранты на паездку ў ЗША. Гэта не былі выключна культурныя праграмы. Але любы, хто прыязджае да нас, мае магчымасці пазнаёміцца з амерыканскай культурай, прыняць удзел у розных мерапрыемствах. Дарэчы, засваенне культурнага пласта – гэта частка іх праграмы знаходжання ў Амерыцы. Працуе наша пасольства і ў накірунку развіцця ўласных культурна-адукацыйных цэнтраў у Беларусі.

***— Пасольства ЗША мае рэпутацыю аднаго з самых жорсткіх візавых фільтраў для жыхароў Беларусі. Што вы скажаце наконт гэтага?***

— Гэта не чыста беларуская праблема. Амерыканскае заканадаўства па іміграцыі вельмі складанае. Ёсць мноства прычынаў, па якіх людзі з розных краінаў хацелі б прыехаць у Амерыку і жыць там. Кангрэс ЗША і Прэзідэнт мусілі прыняць шэраг заканадаўчых актаў, якія прадугледжваюць меры барацьбы з нелегальнымі імігрантамі. У ЗША прыязджае шмат гасцей па турыстычных візах. Некаторыя з іх вырашаюць застацца ў ЗША нелегальна. Таму нашы консульствы і пасольствы асцярожна падыходзяць да пытання выдачы візаў у ЗША. Кожны павінен прайсці тэст і пераканаць службовую асобу ў тым, што ён не мае намеру папоўніць шэрагі нелегальных імігрантаў. Такія самыя праблемы з выездам у ЗША існуюць і ў іншых краінах.

***— За што вы, спадар Райнерт, любіце сваю краіну?***

— Я лічу, што гэта краіна шырокага выбару. Асабіста я меў магчымасць рабіць усё, што пажадаю. І ніхто ніколі не сказаў мне, што я не магу гэтага зрабіць. Я ведаю, што як толькі вярнуся ў ЗША, то змагу выбраць любую кар'еру любое месца пражывання, любую веру без усякага ўмяшальніцтва з боку ўрада. Я не думаю, што такая самая сітуацыя ў іншых краінах. З другога боку, я вельмі люблю ў ЗША нацыянальную разнастайнасць. Там можна сустрэць людзей з усяго свету. Нарэшце, Амерыка вельмі прыгожая: горы, раўніны, акіян, азёры, непаўторная і велічная прырода. ■

Гутарыла Ганна ПІЛАТОВІЧ

# Ці гараць нашыя рукапісы?

## Беларускія літаратары і сучасны літаратурны працэс

**Леанід ГАЛУБОВІЧ**

*За што змагаліся, як баранілі веру, –*
*Хай зведаюць усе паномкі праз паперу!*
*(М.Багдановіч)*

*Заканчэнне, пачатак у № 83*

Трэба зазначыць, што і сябры гэтага аб'яднання ўсё больш схільныя да агульнага дзяржаўнага «стойбішча» беларускіх пісьменнікаў. Я маю на ўвазе ўсё той жа СБП. Аднак, не ўзіраючы на членскія білеты сябраў, таварыства (прынамсі яго ядро) прытрымліваецца і свайго дэмакратычнага волевыяўлення і свабоднай мастацкай скіраванасці, дзякуючы чаму і не распадаецца канчаткова.

Былі і ёсць цікавыя чыста выдавецкія праекты. Найперш, гэта газета «Наша ніва», што вылузалася з вышэй упомненых «Тутэйшых». Вялікая заслуга ў тым, што газета «не згубілася», а цвёрда стала на ногі, адваяваўшы найбольш сапелы, інтэлектуальны і свядомы кантынгент беларускай моладзі, яе ідэолага і лідэра публіцыста і літаратурнага крытыка Сяргея Дубаўца.

Пераарганізацыя ў 1994 годзе вядомага двухмоўнага выдання «Роднік» – «Крыніца» ў арыгінальны культуралагічны праект, беларускі па змесце і нацыянальны па духу, сталася гістарычнай з'явай. І тут трэба аддаць належнае «нюху» тадышняга галоўнага рэдактара гэтага часопіса паэта Уладзіміра Някляева, які здолеў сабраць вакол гэтай ідэі адметных сваім талентам беларускіх інтэлектуалаў, такіх як А.Разанаў, В.Акудовіч, Ю.Залоска ды іншых. На жаль, музыка іграла нядоўга...

Адметнай была і выдавецкая серыя «Бібліятэка Фрагменты», заснаваная ў 1998 годзе Цэнтрам Еўрапейскага Супрацоўніцтва «Эўрафорум» і часопісам «Фрагменты». У гэтай серыі свет пабачылі дзевяць арыгінальных кніжак сучаснай паэзіі, прозы, публіцыстыкі і філасофіі. Праект «загадаў доўга жыць» з фінансавых прычынаў. Але больш ці менш перыядычна ўсё яшчэ выходзіць сам часопіс «Фрагменты», які па магчымасці высвечвае аспект нашай нацыянальнай і сярэднееўрапейскай філасофіі і культуралогіі. Сёлета з'явіўся восьмы нумар часопіса. Тут шчыруюць Ігар Бабкоў і творчая «кампанія» Беларускага калегіума.

Не ведаю, ці не аддало яшчэ Богу душу нашумела-нагрымелае «афрыканскае племя» Бум-Бам-Літ, якое ў свой час выдала абсурдысцкі «Беларускі тазік» сваіх арыгінальных тэкстаў ды зладзіла процьму страшных для нашых людзей, але не для самой улады, перформансаў... Загадваў справамі літаратурнай часткі гэтага таварыства схільны да розыгрышаў філосаф В.Акудовіч, а матэрыяльны рэй вёў аўтар шматлікіх друкапісаў Зм.Вішнёў. Было весела, але нядоўга. Шкада...

Колькі гадоў таму паўстаў на «тле» савецкай і постсавецкай беларускай літаратуры найноўшы часопіс «Arche» і дадатак да яго – зборнік сучаснай літаратурнай крытыкі «Скарына». Тут гаворка патрабуецца асобная, нашмат шырэйшая і больш сур'ёзная, бо сказаць коратка і адназначна не выпадае. Будзе парушаная аб'ектыўнасць. Адно пэўна, што два гэтыя паралельныя выданні, як, дарэчы, і іх спадарожнік (а мо наадварот?) тыднёвік «Наша ніва», які, калі верыць выдрукаванаму ў ім накладу, ледзь не ў два разы перавышае лімаўскі тыраж, працуюць на карысць і, спадзяюся, ужо не такую і далёкую плённую перспектыву нацыянальнай культуры і літаратуры. Цяжкі, але ганаровы воз гэтых праектаў «цягнуць на сабе» найперш Адам Глобус, Сяргей Дубавец ды Андрэй Дынька...

Нядаўна быў прэзентаваны рэдкаму сённяшняму чытачу другі выпуск руска-беларускага авангардна-пафігісцкага альманаха «Nihil» (у перакладзе са старагрэцкай: нішто). Трэба сказаць, што надараюцца і там вартыя ўвагі тэксты, але ці ўзыдзе, у рэшце рэшт, што з нічога – застаецца пад пытаннем. І ўсё ж лепш цешыць сваё самалюбства нічым, чым задыхацца ў падземных пераходах «Немиги»... Галоўны спецыяліст па надзвычайных сітуацыях у альманаху «Nihil» паэт-інтэлектуал Міхась Баярын.



Добрую справу робіць выдавецтва «Кнігазбор». Нечакана для многіх нарэшце знайшоў сваё сапраўднае прызнанне Кастусь Цвірка. Зазіраючы ў наперад прапісаныя планы выдавецтва, пацяху гадуеш у сабе надзею займець адметную і шыкоўную бібліятэку нацыянальнай кнігі ва ўласнай кватэры.

Як бы хто, у тым ліку і я сам, ні ставіўся да дзяржаўнага выдавецтва «Мастацкая літаратура» і асабіста да яго дырэктара Георгія Марчука (нядаўняга адзінага ад літаратараў кандыдата на дэпутацкі мандат, а таксама, як ён сам заяўляў падчас выбарчай кампаніі, кандыдата на Нобелеўскую прэмію ад Беларусі), трэба ўсё ж адзначыць і ўхваліць адзін яго выдавецкі праект – серыю «Беларуская літаратура XX стагоддзя», што была заснаваная ў прамінулым годзе. Праўда, узнікае пытанне: чаму такая серыя з'явілася напрыканцы гэтага самага XX стагоддзя? Хіба ў выдавецтве не ведаюць, што будзе праз два месяцы? Падкажу: наступіць XXI стагоддзе. І што ж – канец серыі?!

І ўсё ж прызнаем, што кніжкі выдаюцца там на вельмі якаснай паперы ў выдатным мастацкім афармленні, прыстойным па сённяшнім часе накладам, а галоўнае – няма пакуль выпадковых аўтараў (па службе, дружбе ці ідэйным вызнанні). Магчыма, я хацеў бы бачыць у згаданай серыі і іншыя выбітныя імёны беларускіх пісьменнікаў – дык, Бог дасць, можа і пабачу, хто ведае...

Відаць, заслугоўвае ўпамінання пра сябе і наша ананімная літаратура. Яшчэ падчас перабудовы пабачыў свет «Сказ пра Лысую гару», а сёлета выйшаў гожы зборнічак ананімных тэкстаў «Ідыёт самы настаяўшы...». Час ад часу з'яўляліся творы падобнага кшталту ў газеце «Народная воля». Смяяцца, у народзе кажуць, не грэх. Але і надта сур'ёзна ставіцца да смешнага таксама не прызнак вялікага розуму. Вядома, вельмі «шчыміць» мне назваць Ведзьмака Лысагорскага і К° прозвішчам сапраўднага аўтара. Ды ёсць адно «але». Раптам – аўтар сябе не прызнае?! Таму пакуль не даказваю, не спрабую, а маўчу і чакаю. Як той казаў: дурное само сябе выявіць... А смешнае – тым болей...

Безадносна да імёнаў і прозвішчаў, скажу, што і гэтая шырокамасавая літаратура адназначна спрацавала на карысць светлых пераменаў у цёмных галовах...

А днямі без усякай ананімнасці Віктар Шніп выдаў пад дахам ТВЛ свой зборнічак брутальных («а-ля Баркоў») вершаваных тэкстаў. Гэта, бадай, новы і ў пэўнай меры нечаканы жанр у беларускай паэзіі (у прозе мы маем «Дамавікамерон» Адама Глобуса). Адны, пабачыўшы гэты зборнічак, гідліва «фэ»каюць і адсоўваюць яго ад сябе як найдалей, іншыя (такіх большасць! – намёк сацыёлагам) наадварот – вырываюць з рук (наклад у 100 асобнікаў мае быць рарытэтным). Як бы хто да гэтага ні ставіўся, але ўрэшце маем і мы свой «Чырвоны ліхтар»...

Адным словам – стоп, машына! Прыехалі.

О, нездарма томіцца ў Хельсінкі над сваёй фантасмагорыяй пад страшным назовам «Крэматорый» старшыня СБП Уладзімір Някляеў, мабыць, маючы на досведзе, што ўсё на гэтай Зямлі аднойчы перагарыць на тло, і нішто – ні злое, ні добрае – не захаваюць ні сваіх слядоў, ні сваіх імёнаў... Спрадвечная гіпотэза. Гэткі сусветны апакаліпсіс... Што ж, гады не дадаюць нам аптымізму...

І Карфаген разбураны, і Калізей захаваўся...

А наастатак вось што. Чытаючы Веліміра Хлебнікава, даведаўся, што старшыня Зямшара грэўся ў бязлюдным халодным стэпе, спальваючы свае рукапісы... Мы ж сцвярджаем, што нашыя рукапісы не гараць. Няйначай сырыя...

Значыць, і надалей будзем грэцца ля чужога агню? Ці не таму, праектуючы новую нітку газаправода, змушаныя будзем адліваць і чарговы помнік Аляксандру Пушкіну.

Сваё ж не гарыць – пачакае... Вось толькі, каб не было позна... ■

# Невядомы раздзел з рамана Джэймса Джойса «Уліс»

Рукапіс раздзела са знакамітага рамана ірландскага пісьменніка Джэймса Джойса «Уліс» набыла Нацыянальная бібліятэка Ірландыі за 1,5 мільёна долараў. Рукапіс аб'ёмам 27 старонак з пазнакамі аўтара на палях і яго ўласнымі папраўкамі прададзены на аўкцыёне *Christie's*. Яго кошт перабольшыў максімальны разліковы на 300 тысяч долараў. Кніга выйшла ў свет у 1922 годзе, але пра існаванне гэтага рукапіснага раздзела даследнікі творчасці Джойса даведаліся толькі летась. Гэты тэкст належаў сваяку Джона Куіна, амерыканскага адваката і бібліёфіла, які падтрымліваў пісьменніка сродкамі і набыў у яго першы рукапіс рамана. У 1924 годзе Дж.Куін прадаў твор нейкаму гаспадару кніжнай крамы, але пакінуў у сябе раздзел, які цяпер прададзены з малатка.

ІНТЭРФАКС

**КНІГАРНЯ**

## Князкае жыццё наваградскага замка

Альдона НЕЗАБЫТОЎСКАЯ

**Кастусь Тарасаў. Апошняе каханне князя Міндоўга. Мінск. «Лекцыя», 2000**




Нарэшце выйшла ў свет кніжнае выданне новай гістарычнай аповесці Кастуся Тарасава. У адрозненне ад часопіснага варыянта, аповесць пабольшала ў памеры і, на маю думку, набыла больш захапляльны малюнак характараў і больш трапныя матывацыі ўчынкаў, ці лепш сказаць, наогул чыннасці ўсіх сваіх гістарычных асобаў. Апошняе істотна, бо сярод галоўных персанажаў твора няма «выдуманых» герояў, якімі звычайна запаўняюцца ў гістарычных раманах лакуны недасведчанасці. Усе падзеі – пачынаючы са спусташальнага наезду на Мазоўшу літвы і наваградцаў Міндоўга ў 1262 годзе і да крывавай міжусобнай сечы на беразе Нёмана ў Налібоцкай пушчы – пазначаны ў нашых ці польскіх хроніках хоць адным радком. Іншая справа, што гэтыя сціснутыя старажытнымі летапісцамі ў некалькі сказаў сюжэты аўтар разгортвае ў панарамнае відовішча, абапіраючыся, варта падкрэсліць, на корпус дакладных гістарычных звестак. І палонныя палякі ў каморах наваградскага замка, і жорсткія ўмовы іх утрымання, і прыбліжаны да Міндоўга ваявода Астап, сын разанскага князя-братазабойцы, і князь Войшалк-Раман, ігумен Лаўрышаўскага манастыра, і братняя нянавісць паміж літоўскімі князямі, і выклік Міндоўга звычаям – усё гэта было, і сабранае разам дазваляе адчуць дух першых гадоў існавання Навагрудка як сталіцы беларуска-літоўскай дзяржавы. Дазваляе ўбачыць шэраг людзей, якія імкнуліся ці пашырыць сваю ўладу ці абараніцца ад падпарадкавання.

Аднак, галоўнае ў аповесцяў – зусім не тэма ўлады. Магчыма чытачам–мужчынам гэтак падаецца на падставе нейкіх мужчынскіх комплексаў. Але калі б аўтара найбольш цікавіла тэма ўлады, дык, думаю, ён абраў бы іншыя аспекты сюжэта – прыкладам, здзяйсненне замаху на Трайнату канюшымі Міндоўга і прыход на навагрaдскі трон Войшалка, што працягвала дынастыю Міндоўгавічаў. Пасля «Жыцця 12 цэсараў», пасля вядомых кожнаму жыццяпісаў Гітлера, Сталіна, Мусаліні ды падобных выраджаў нашага стагоддзя, пісаць пра ўладу наўрадці цікава для таленавітага пісьменніка.

Больш істотная праблема – даследаванне характару, які вымушае асобу змагацца за ўладу. Чаму адны ідуць на смяротную рызыку, каб уладу займець, а іншы, як у аповесці князь Войшалк, намагаецца адысці ад гэтай барацьбы ў зацішак манастыра.

Галоўная асоба рамана, на маё жаночае вока, княгіня Агна. Ёй выпадае перажыць драму гвалту, разлукі з мужам, палону, адчуць сябе сродкам у руках уладарных (маючых войскі) мужчын, і нарэшце знайсці такое паразуменне са светам, яго жорсткасцю, несправядлівасцю, абыякавасцю, якое дазваляе ўплываць на ход жыцця. Трагедыя Агны, што менавіта тады, калі яна здолела паўстаць духам, яе зацягнуў вір трагічнай развязкі.

Летам, ходзячы па старажытнаму наваградскаму замчышчу, я быццам бачыла той касцёр, што гарэў уначы пасярод замкавага двара, ля якога стаялі Міндоўгі і Войшалк, і гучалі галасы мазурак, і бачыўся князь Даўмонт на кані каля руінаў каменнай вежы, збудаванай Міндоўгам, і цені дзвюх сясцёр, што пабылі жонкамі аднаго вялікага князя.

І прыйшла да мяне думка, што гэтыя прывіды, убачыць якіх дапамагла мне аповесць, ажыўленыя пісьменнікам у гонар Навагрaдка, у гонар першай сталіцы нашай дзяржавы. І не людзі, якія мяняюцца, а глыбінны змест паданняў пра галоўны горад нашай зямлі, складаюць падтэкст гэтага твора. Нездарма у нас стараюцца вытравіць памяць пра сталічны статус Навагрaдка. Ён быў удачлівым збіральнікам земляў у той час, калі татары спусташалі рускія і украінскія землі. А каханне, забойствы, здрады – гэта спадарожнікі чалавека заўжды. ■

# Европейскую оборону атакуют цепи бюрократов

Эдвард Н.ЛЮТВАК,

**военный стратег и консультант, старший научный сотрудник Центра стратегических и международных исследований, Вашингтон**



Несмотря на то, что встреча лидеров Европейского Союза в Ницце достигла всего нескольких из поставленных на повестку дня целей, она стала шагом на пути интеграции европейских вооруженных сил, Европейской Оборонной Инициативы (ЕОИ). Тем не менее, это движение начало вызывать опасения как в *NATO*, так и в Соединенных Штатах Америки.

Одним из фундаментальных принципов Американской внешней политики долгое время было оказание поддержки любым начинаниям по дальнейшей интеграции Европейского Союза. Если в результате таких начинаний возникает угроза особым интересам США, средством является ревизия деталей, но без противодействия инициативе в целом. В отличие от британских тори и французских голлистов, а также многих датчан и шведов, у американцев нет страха перед перспективой возникновения Соединенных Штатов Европы, без сомнения, потенциального конкурента, но также и весьма необходимого партнера на мировой арене.

Когда впервые появилась ЕОИ, реакция Америки ничем не отличалась. Хотя многие французские вдохновители ЕОИ не скрывали своего желания найти альтернативу *NATO*, что рассматривалась ими как единственный способ освобождения Европы от американской гегемонии, официально ЕОИ представлялась и обсуждалась на заседаниях советов Европейского Союза по-другому. Официально ЕОИ должна была стать дополнением *NATO* не в качестве конкурента; цель ЕОИ виделась в предоставлении Европейских сил для проведения операций по поддержанию мира меньшего масштаба, которые не требовали участия американских вооруженных сил.

Американская дипломатия, следовательно, не противостояла ЕОИ и даже приветствовала возможность того, что ЕОИ могла убедить европейскую политическую элиту поддержать затраты на военные операции, сокращая, таким образом, нагрузку на США. Не имеющие по всей видимости конца операции по поддержанию мира в Боснии – тому пример. Америку очень устроит, если ЕОИ предоставит дополнительные контингенты войск, что позволит армии США отозвать 4.600 солдат, которые можно будет использовать по всему миру в других местах, где существует большой спрос на американские войска.

И все же в последние недели работы Администрации Клинтона отношение Америки к ЕОИ изменилось. Во время своего последнего визита в *NATO* Секретарь Госбезопасности Вильям Коуэн заменил принципиальное политическое одобрение на выражение обеспокоенности, которая ликвидировала недостаток прямой оппозиции. Причина проста — деньги. Вместо того, чтобы увеличивать ресурсы, отводимые на Европейскую безопасность, сейчас, кажется, ЕОИ собирается их сокращать.

В измерениях постоянного доллара США 1999 года (перед изменением курса, вызванным эффектом падения евро), все государства – члены Европейского Союза в настоящий момент расходуют около 156 миллионов долларов на оборону, гораздо меньше, чем в 1985 году, последнем годе «холодной войны», когда общие затраты равнялись 216 миллионам долларов. После сбора мирных дивидендов основные протагонисты ЕОИ продолжают сокращать затраты на оборону: с 1998 по 1999 год Франция, Германия, Италия и Великобритания сократили объединенные затраты на оборону еще на 10 млн. долларов. Другими словами, больше нет дополнительных денег, чтобы оплачивать ЕОИ, но есть целый ряд дополнительных на то потребностей.

Наиболее очевидно, что формирующийся сейчас в Бельгии Европейский Генеральный штаб, чья работа неизбежно скопирует то, что *NATO* делает уже сейчас. И плюс к этому повлечет за собой увеличение военной бюрократии. Эти расходы, может быть, будут не столь велики, но увеличат и так высокую пропорцию затрат на европейские вооруженные силы, поглощаемую министерствами обороны каждой страны, собственными штаб-квартирами по каждому виду деятельности, а также избыточной сопровождающей бюрократией. Последняя в действительности осталась практически такой же большой, как и в 1985 году, когда число людей в униформе, авиации, военных кораблей, оружия и артиллерии было вдвое больше, чем сейчас.

Но еще большими, тем не менее, являются невидимые затраты: 60.000 войск, назначенных на ЕОИ, уже организованы для объединенных действий под командованием *NATO*. Теперь они должны быть реорганизованы для действий под управлением Генерального штаба, который уже начал планирование собственных учений с полным обеспечением транспортных расходов, затрат на топливо и различные ресурсы. Если все это происходит только потому, что немногие французские офицеры служили в войсках *NATO*, уроки совместной работы штаба, полученные за время существования *NATO*, то есть полстолетия, должны быть пройдены еще раз.

Что действительно необходимо Европе, так это менее бюрократическая верхушка и более обученные войска. За исключением Великобритании и очень небольших элитных групп войск, европейские войска недостаточно обучены для участия в битвах и даже для проведения операций по поддержанию мира в опасных местах. Это проявилось в Косово, где солдаты и офицеры, направленные большинством стран, были неспособны к осуществлению элементарных пехотных операций, например, ночному патрулированию в небольших группах, что было существенным для контроля над выступлениями бойцов албанской Армии освобождения Косово.

ЕОИ не сможет предоставить ни дополнительные войска, ни проведение дополнительного обучения – совместные учебные действия сейчас являются скорее ритуальными — пока требует увеличения затрат на бюрократию. Для Америки это означает, что европейские войска *NATO* будут ослаблены ЕОИ, и потенциальная нагрузка на вооруженные силы США возрастет. Ни один даже самый вежливый дипломат США не может это приветствовать. ■

© Project Syndicate

**СПОРТ**

## Дваякія ўражанні

Аляксей ШЫДЛОЎСКІ

Тры ачкі здабыла беларуская нацыянальная хакейная зборная падчас свайго ўдзелу ў «*Slovakia Poistovna Tatra Cup-2000*». І ўражанні ад гэтых вынікаў даволі дваякія.

Спачатку – вынікі. Беларусы прайгралі славакам 0:1, згулялі ўнічыю са Швейцарыяй 1:1 і перамаглі нарвежцаў з лікам 4:1. Тры ачкі – не самы горшы вынік, але кідаецца ў вочы вельмі малая колькасць закінутых шайбаў — усяго 5. А ў першых дзвюх гульнях увогуле адна. З другога боку, мы ўсяго шайбу прайгралі адной з вядучых зборных свету — славакам. Да таго ж радуе дынаміка вынікаў – згуляліся і пачалі перамагаць. Але тых жа швейцарцаў мусілі перамагаць стопранцэнтова.

Зрэшты, любая падрыхтоўка да лютаўскага адборачнага этапу Алімпіяды была вельмі важкай, і сапраўдныя яе вынікі мы зможам даведацца толькі ў наступным годзе. ■

## «Ролеры» ў ЗША – група рызыкі

Два жыхары ЗША загінулі і 27.600 атрымалі раны ў выніку катання на ролікавых каньках. Небяспека сучасных ролікавых канькоў у тым, што яны дазваляюць развіваць вялікую хуткасць, але пры гэтым не заўсёды маюць дастаткова эфектыўныя тармазы. У ЗША катанне на такіх каньках лічыцца адным з 10 найбольш рызыкоўных заняткаў.

За апошнія некалькі месяцаў статыстыка траўматызму, выкліканага выкарыстаннем гэтых канькоў, у ЗША значна ўзрасла. Так, адзін дарослы мужчына ўдарыўся галавой і памёр, калі навучаў сваю дачку катацца на роліках, а другі загінуў, трапіўшы пад машыну. Па дадзеных органаў аховы здароўя ЗША, 85% з 27.600 «ролераў», якія звярнуліся па дапамогу ў бальніцы ў сувязі з траўмамі, — падлеткі да 15 гадоў. ■

ІНТЭРФАКС

## Новы чэмпіён

Уладзімір ДАЎЖЭНКА

Зборная Венгрыі стала пераможцай чацвёртага па ліку чэмпіянату Еўропы па ручным мячы сярод жаночых камандаў. У фінале з лікам 32:30 яна перамагла гандбалістак Украіны.

Уладальніцы гэтага тытула трох папярэдніх турніраў каманды Даніі (двойчы) і Нарвегіі нават не здолелі трапіць у паўфінал, няўдала згуляўшы на папярэднім этапе ў той самай групе, у якой удзельнічалі і спартсменкі нашай краіны.

Перамога, два паражэнні, тры нічые – вынік не самы горшы амаль для любых спаборніцтваў, акрамя гэтага. Тры ачкі з дзесяці магчымых прынеслі ім у групе толькі апошняе, шостае месца, падараваўшы яшчэ адзін, суцяшальны, прынцыпова нічога не рашаючы матч за адзінаццаты радок у выніковай табліцы з яшчэ адным няўдачнікам – камандай Аўстрыі. Вось гэтая адзіная перамога – 27:22 – была здабытая ў апошняй гульні, але, паўтару, яна ўжо нічога не вырашала. Аднойчы, пасля чэмпіянату свету тры гады таму, дзе нашы выступілі няўдала, ставілася пытанне аб лёсе зборнай, яе галоўнага настаўніка, але, як той кажа, абышлося.

Як будзе на гэты раз і што рабіць далей – справа кіраўніцтва беларускага спорту. Нам застаецца толькі чакаць і зараз пераключыцца на новыя хваляванні: у студзені барацьбу за «сваю» Еўропу зноў павядуць гандбалісты, на гэты раз мужчыны. ■

## Раскаціліся... Засталося трапна страляць

Аляксей ШЫДЛОЎСКІ

Нарэшце прыйшоў першы поспех і да беларускіх біятланістаў. На чарговым этапе Кубка свету ў італьянскім Антхольцы ў спрынтэрскай гонцы лідэр беларускай зборнай Вадзім Сашурын здолеў заняць трэцяе месца. Дапусціўшы адзіны промах у стральбе, Вадзім саступіў толькі такім фаварытам, як француз Рафаэль Пуарэ і нарвежац Оле-Эйнард Б'ёрндален.

Але, на жаль, гэты поспех стаў апошнім за ўвесь чарговы трэці этап.

У чацвер, на доўгіх дыстанцыях, беларусы паказалі сябе нядрэнна. Асабліва гэта датычыцца жанчын, якія ўпершыню заявілі аб сабе як аб баяздольным калектыве. Святлана Парамыгіна на фінішы была шостай, прайграўшы пераможцы адну хвіліну. Адзінаццатае месца заняла Людміла Лысенка, чатырнаццатае — Вольга Назарава. Пры гэтым Вольга да апошняй стральбы, у якой дапусціла два промахі, ішла ў тройцы прызёраў.

Мужчыны ў гонцы на 20 кіламетраў зноў паказалі сябе як вельмі дрэнныя стралкі. У выніку вялікай колькасці промахаў Сашурын быў адзінаццаты, Алег Рыжанкоў — дзевятнаццаты. Хоць беглі нашы надта хутка.

І вось на наступны дзень поспех прыйшоў у мужчынскім спрынце. Трэцяе месца Сашурына да таго ж давала спадзяванні на нядзельную гонку праследу, у якой Вадзім стартаваў менавіта з трэцяй пазіцыі. Але зноў, «настраляўшы варон» ён скаціўся на тое ж адзінаццатае месца. Такое ж, дарэчы, месца ён займае і ў агульным заліку.




Астатнія мужчыны таксама выступілі лепш за мінулыя тыдні, але гэтага было пакуль што недастаткова для вялікага поспеху. Між тым спадзяванні на будучыя перамогі ёсць хаця б таму, што прагрэс росту вынікаў беларускіх біятланістаў прымушае аб гэтым думаць.

Жанчыны ў спрынце, на жаль, значных поспехаў таксама не здабылі. Лепшыя месцы ў суботу: С.Парамыгіна – дваццаць восьмае, а ў нядзелю Вольга Назарава – дваццаць сёмае.

Наступны этап Кубка свету пройдзе ў гэты ўік-энд. Ён стане пераломным у плане таго, што нарэшце мусіць адбыцца там, дзе было першапачаткова наканавана, – у нямецкім Аберхофе. ■

Галоўны рэдактар Павел ЖУК

© НАША СВАБОДА. Спасылка на газету НАША СВАБОДА абавязковая. Рэдакцыя можа не падзяляць меркаванні аўтараў, публікаваць артыкулы дзеля палемікі.
Адрас: г.Мінск, пр-т газеты «Известия», 8-173. Пасведчанне аб рэгістрацыі № 1289. Выдаецца з 25 лютага 2000 г. Заснавальнік Зміцер Жук.
Выдавец — рэдакцыя газеты НАША СВАБОДА. E-mail: NPSvaboda@irex.minsk.by Надрукавана ў друкарні УП «Мэджык»
г. Мінск, ул. Кнорына, 50. Заказ № 971 Нумар падпісаны ў друк 18/12/2000 (15.00) Наклад – 9.440